№ 47 (932) 16 снежня 2015 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Мікалай Януш

**першы футбаліст, які загаварыў па-беларуску**

Старонка 6



## Падпішыся сам, падпішы дзядоў!

«Наша Ніва» — гэта ваша ніва. **Старонка 2.**

# Ні авіябазы, ні крэдыту

Авіябаза? «Не, не абмяркоўвалася», — сказаў прэс-сакратар прэзідэнта Расіі Дзмітрый Пяскоў пасля перамоў Аляксандра Лукашэнкі і Уладзіміра Пуціна.

У сярэдзіне верасня Пуцін даручыў Мінабароны і МЗС правесці з Мінскам перамовы і па выніках падпісаць пагадненне аб стварэнні ў Беларусі расійскай авіябазы. Аднак Аляксандр Лукашэнка выступіў супраць гэтай ідэі. Варта адзначыць, што супраць базы катэгарычна выступіла беларуская апазіцыя, у Мінску прайшлі акцыі пратэсту. Расійская база ў Беларусі магла б стаць плацдармам для ўмяшання ва ўнутраныя справы краіны.

У адказ Расія прыняла рашэнне не выдзяляць Беларусі крэдыт з падкантрольнага ёй еўразійскага Антыкрызіснага фонду. Тым часам Мінск прасунуўся ў перамовах з Міжнародным валютным фондам аб выдзяленні крэдыту такога ж памеру, але пад ніжэйшы працэнт.

Перад перамовамі ў Маскве аналітыкі разыходзіліся ў думках, ці выкруціць Пуцін Лукашэнку рукі. У выніку, як выглядае, перамовы скончыліся нічым: ні базы, ні крэдыту. Падпісаная толькі малазначная заява ні пра што.

Зрэшты, абодва кіраўнікі краіны высока ацанілі перамовы. Лукашэнка сказаў, што паміж Беларуссю і Расіяй не засталося ніводнага пытання, якое патрабуе дадатковай прапрацоўкі. Лукашэнка дадаў, што «абсалютна даверае» свайму расійскаму калегу.

Пуцін падкрэсліў, што Беларусь і Расія «маюць блізкія пазіцыі па Украіне і Сірыі». Звяртае ўвагу: «блізкія», а не «аднолькавыя».

Пасля гэтага была дастаткова расплывістая фраза: «У мэтах умацавання рэгіянальнай стабільнасці і бяспекі дамовіліся актыўна развіваць вайсковае і вайскова-тэхнічнае супрацоўніцтва», — дадаў Пуцін.

21 снежня адбудзецца яшчэ адна сустрэча кіраўнікоў Беларусі і Расіі. На гэты раз у рамках саміта АДКБ.

Лукашэнка запрасіў кіраўніка Расіі нанесці візіт у адказ у Беларусь.

**Мікола Бугай, Зміцер Панкавец**



REUTERS

**Наступныя пакаленні будуць жыць у мірнай Беларусі?**

## «Аднавіць поўны кантроль на мяжы з Расіяй — і праблема спайсаў будзе вырашана»

32-гадовы жыхар Барысава асуджаны на 15 гадоў пазбаўлення свабоды з канфіскацыяй маёмасці. Праваахоўнікі палічылі яго адным з найбуйнейшых наркадылераў краіны. У гаражы ён стварыў наркалабараторыю і выйшаў на прамысловыя аб'ёмы. Адкуль браў абсталяванне і рэчывы? Прывозіў з Расіі.

Малады мінчук, якога судзяць у гэтыя дні, быў закладчыкам спайсаў. Не кіраўніком групоўкі, а звычайным кур'ерам. За месяц ён зарабляў больш за 40 мільёнаў рублёў. Абарот у арганізатараў такога «бізнэсу» быў нашмат большы. У аднаго з іх сканфіскавалі больш за $500 тысяч. Адкуль атрымліваў спайсы для перапродажу? З Расіі.



**Блогер Антон Матолька.**

«Лаўлю сябе на думцы пра тое, што маштаб праблемы ўжывання наркотыкаў і псіхатропаў не перастае сумна здзіўляць. Кожны дзень «заведзеная крымінальная справа», «выяўлена і канфіскавана псіхатропнае рэчыва», «збыў непаўналетняму», — напісала ў сацсетках прэс-сакратарка Следчага камітэта Юлія Ганчарова і заклікала: «Калі ў вас ёсць крэатыўныя ідэі наконт таго, як зрабіць што-небудзь па дадзенай праблеме — просьба прапаноўваць».

Блогер Антон Матолька прапанаваў «аднавіць ПОЎНЫ кантроль на мяжы з Расіяй. Праблема з псіхатропамі будзе вырашана ў самыя кароткія тэрміны». Гэты каментар атрымаў найбольшую падтрымку чытачоў.

**Ягор Марціновіч**

## «Спісаць усё на чалавека, які загінуў, — працей за ўсё»

Будаўнік з Ліды загінуў на працы. **Старонка 7.**

## Калі мільёны апяваюць сонца, сумленны той, хто працуе пры месяцы

Піша Зміцер Панкавец. **Старонка 8.**

## Зброя, грошы, наркотыкі і алкаголь

у беларускім руху ХХ ст. Андрэй Чарнякевіч. **Старонка 13.**

## Калыска рэвалюцыі

Апавяданне Алеся Кіркевіча. **Старонка 14.**

# Намеснік рэдактара «НН» Ягор Марціновіч атрымаў прэмію ЮНЭСКА і «Рэпарцёраў без межаў» за свае расследаванні

Намеснік рэдактара «Нашай Нівы» Ягор Марціновіч і галоўны рэдактар сайта «Хартыя'97» Наталля Радзіна сталі ўладальнікамі прэміі «Свабода прэсы» — 2015 (*Press Freedom Award*) міжнароднай арганізацыі «Рэпарцёры без межаў». Прэмію «Свабода прэсы» патрануе ЮНЕСКА.

Цырымонія ўзнагароджання адбылася 10 снежня ў Вене. Ягор Марціновіч атрымаў прэмію за расследаванні ўзбагачэння беларускіх чыноўнікаў шляхам размеркавання маёмасці ў Драздах, Наталля Радзіна — за артыкул «Не цалуйце рукі дыктатарам».



Ягор Марціновіч (справа) і Наталля Радзіна (другая злева).

«Марцін Лютэр Кінг гаварыў: «Апошні крытэрый каштоўнасці чалавека — не тое, як ён паводзіць сябе ў час утульнасці і зручнасці, а тое, як ён трымаецца ў часы барацьбы і супярэчнасцяў», — заявіла ўпаўнаважаная па пытаннях свабоды СМІ ў АБСЕ Дуня Міятавіч. — Калі мы губляем надзею на перамены, сярод нас заўсёды ёсць людзі, якія змагаюцца за свабоду і гатовыя змяняць свет. Мой шасцігадовы вопыт працы на пасадзе прадстаўніка АБСЕ па свабодзе слова гаворыць, што мы жывём у вельмі складаны час, час сур'ёзных выклікаў. Сёння нам патрэбныя журналісты больш чым калі-небудзь — яны кантралююць і выкрываюць улады».

«Калі я сядзела ў турме КДБ, мне ды іншым палітвязням навязвалі думку, што мы — злачынцы, што ніхто на Захадзе не патрабуе нашага вызвалення, што ўсе прызналі законнасць улады Лукашэнкі. Калі я выйшла на свабоду, я зразумела, што гэта хлусня — з намі быў салідарны ўвесь свет. І сённяшняя прэмія — гэта довад таго, што ў сваёй барацьбе за свабоду беларусы не адныя», — сказала Наталля Радзіна.

«У кожнага медыя свой шлях. «Наша Ніва» прынцыпова працуе на тэрыторыі Беларусі, таму павінна выконваць усе законы дзяржавы, нават самыя абсурдныя. Мы не маем права на памылку. Большая частка насельніцтва Беларусі прагне перамен і ўважае сябе за прыхільнікаў еўрапейскіх каштоўнасцяў. Дэмакратычныя СМІ здолелі перамагчы дзяржаўныя медыя ў барацьбе за аўдыторыю, нягледзячы на тое, што прапагандысцкая машына значна мацнейшая і мае значна больш рэсурсаў. Чаму гэта адбылося? Таму што пошук праўды і жаданне зрабіць сваю краіну лепшай дапамагаюць рабіць больш, чым магчыма», — заявіў Ягор Марціновіч.

## Балаган у Кіеве: Авакаў шпурнуў шклянку ў Саакашвілі

Пасяджэнне ў Парашэнкі **скончылася скандалам**.

Паміж міністрам унутраных спраў Украіны Арсенам Авакавым і кіраўніком Адэскай аблдзяржадміністрацыі Міхаілам Саакашвілі адбылася сварка на пасяджэнні Нацыянальнай рады рэформаў.

Пра гэта паведаміў дэпутат Блока Пятра Парашэнкі Сяргей Лешчанка. Пасля таго, як Саакашвілі выступіў з дакладам, Авакаў выказаў да яго прэтэнзіі. «Пачалася сварка, Авакаў абвінаваціў Саакашвілі ў тым, што ён сам злодзей. На што Саакашвілі адказаў, што ў яго нічога няма, акрамя сумленнага імя», — расказаў Лешчанка.

Падчас сваркі, паводле інфармацыі, міністр Авакаў перайшоў на крык са словамі: «Прэч з маёй краіны». «Выйшаўшы з сябе, Авакаў кінуў шклянкай у Саакашвілі, — адзначыў Лешчанка. — Прэм'ер-міністр Яцанюк абазваў Саакашвілі «гастралёрам» і таксама папрасіў «збірацца з Украіны».

У адказ на гэтыя заявы «Саакашвілі сказаў, што ён такі ж грамадзянін, аднак, у адрозненне ад Яцанюка, не рабаваў Украіны».

«Усё адбылося ў прысутнасці прэзідэнта Парашэнкі, які спрабаваў супакоіць бакі, а затым закрыў пасяджэнне», — напісаў Лешчанка.

Міністр Авакаў апісаў падзеі ў сваім фэйсбуку інакш.

«Адэскі губернатар сарваўся ў істэрыку і пачаў гарлапаніць на мяне: «Ніхто не мае права так размаўляць з Міхаілам Саакашвілі.. ты карумпаваны міністр... а я сумленны чалавек...», перайшоў да адкрытых абраз. Я ўстрымаўся ад таго, каб яго стукнуць — лінуў яму ў твар вадой. Я даўно не бачыў настолькі ашызелага папуліста. Не даваў сказаць нічога — перабіваючы ўсіх, уключаючы прэзідэнта», — напісаў Авакаў.

**Сяргей Гезгала**

Зямля пухам

## Айцец Георгій Сапун

Праваслаўны святар, ён **аднавіў спаленыя** партызанамі цэрквы ў Баранавіцкім раёне.

Так, быў такі дзікі момант у нашай гісторыі: савецкія партызаны ў вайну палілі цэрквы. Такое здарылася і пад Баранавічамі. У тым ліку была знішчаная і адзіная ў свеце трохкутная царква ў Сваротве.

13 снежня памёр 91-гадовы вясковы святар Георгій Сапун, які тыя цэрквы аднавіў.

Апошнія паўстагоддзя протаіерэй Георгій праслужыў у вёсцы Пачапава Баранавіцкага раёна. Памёр у сваёй хаце.

Ён нарадзіўся ў 1924 у Дорах на Валожыншчыне ў сям'і святара. Як такога, яго і адправілі на катаргу ў Сібір у 1944.

«Некалі было ўва мне трохі духу — шчырасці нашай беларускай, — казаў святар журналістам «Нашай Нівы» ў маі. — І цяпер гляджу я на вас, юных, ды падобраму зайздрошчу, бо вы самае галоўнае маеце — маладосць і магчымасці. Калі я маладым быў, то бачыў толькі пакуты і смерць: вайну, катаргу, галодныя пасляваенныя гады, бязбожнікаў».

Георгію з катаргі ўдалося ўцячы, вярнуцца ў родныя мясціны. Як святар, ён заняўся аднаўленнем храмаў у Сваротве, Ятве і Пачапаве.



Айцец быў шчырым, добрым чалавекам. Перажываў пра сённяшні заняпад вёскі: «Такія часы надышлі — толькі адпяваю, амаль не хрышчу», — наракаў ён нам.

«А Бог — гэта любоў. Важна, каб любоў нас не пакідала і была шчырай. Тады і чалавек шчаслівым будзе», — казаў ён.

### Сціcла

**Кабальe прысудзілі паўгода турмы за махлярства**

Суд Барселоны прысудзіў оперную спявачку Мансерат Кабальe да 6 месяцаў турмы і штрафу памерам 255 тысяч еўра за махлярства. Адбываць пакаранне яна, хутчэй за ўсё, будзе ўмоўна. Каб плаціць менш падаткаў, Кабальe зарэгістравалася як рэзідэнт суседняй Андоры, аднак працягвала жыць у Барселоне.

**ЗША паставіць на ўліку дроны**

Усе беспілотнікі на тэрыторыі ЗША і іх уладальнікі павінны быць зарэгістраваныя на ўрадавым сайце. Тым, хто не зарэгіструе дрон, пагражае штраф да $27500.

**Дамы ў Мінскім раёне амаль не прадаюцца**

Колькасць угодаў з жылымі дамамі ў Мінскім раёне абвалілася на 42,4%. За студзень-лістапад 2015 года было зарэгістравана 309 угодаў, а за аналагічны перыяд летась — 527. Прадаўцы нерухомасці да апошняга не хочуць змяншаць цану, таму і не знаходзяць купцоў. У цэлым па рынку дамы патаннелі на 25—30%.

**Асудзілі за заклікі зрабіць рускую мову дзяржаўнай**

37-гадовы актывіст Ярмек Тайчыбекаў прысуджаны казахстанскім судом да 4 гадоў зняволення за распальванне міжнацыянальнай варожасці. Ён пісаў у фэйсбуку паведамленні ў падтрымку цеснай інтэграцыі Казахстана і Расіі і за наданне рускай мове ў Казахстане статусу дзяржаўнай.

ЯМ

### Апытанне на nn.by

**Ці падтрымліваеце Вы ідэю ўвядзення кантролю на мяжы з Расіяй для спынення патоку наркотыкаў і псіхатропаў?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 416 | 85% |
| Не | 14 | 3% |
| Эканамічная шкода ў выніку пагаршэння адносін з Расіяй будзе большай, чым пазітыў па наркотыках | 34 | 7% |
| Гэта трэба вырашаць не галасаваннем, гэта пытанне, якое павінны вырашыць кампетэнтныя органы | 28 | 6% |

Прагаласавала 492 карыстальнікі

### Самае чытанае на nn.by за 9 — 15 снежня

1 Расійская аўтарка пра Алексіевіч: Нобелеўская ганьба
2 Уцякаючы ад кантралёраў, дзяўчына ў Мінску выкінулася з акна тралейбуса
3 Алексіевіч на нобелеўскай цырымоніі нагадала пра любоў і загаварыла пабеларуску
4 Як інспектар ДАІ спыняў аўто ў другой палове МКАД — жорсткае відэа
5 Расійскі карабель у Эгейскім моры адкрыў агонь па турэцкім сейнеры
6 Ксенія Маргунская распавяла, чаму ўцякала з тралейбуса праз фортку
7 БТ назвала дзве ключавыя падзеі тыдня — візіт Лукашэнкі ў В'етнам і…
8 Іван Шыла: 15 прыкметаў таго, што вы нарадзіліся альбо выхоўваліся ў Беларусі
9 «10 гадоў таму я ўладкаваўся на фірму, што займаецца продажам бытавой тэхнікі. У лахатрон»
10 Тэлевядучая Вікторыя Грыб: Абавязуюся сфатаграфавацца топлес

# «Я хацела б, каб у гэтай зале прагучала беларускае слова, мова майго народа»

**Прамова** Святланы Алексіевіч на нобелеўскім банкеце.

Я дзякую Шведскай акадэміі за высокую ўзнагароду, якую не маю права сабе прысвоіць, я разумею яе як паклон многім пакаленням савецкіх людзей, якія яшчэ нядаўна жылі разам у велізарнай краіне СССР — марксісцкай лабараторыі светлай будучыні. Як паклон іх пакутам і іх болю.

Яны сыходзілі ў нябыт у сталінскіх лагерах, на шахтах Магадана і Варкуты, атрымлівалі кулю ў патыліцу ў катавальнях НКВД, гінулі на франтах Другой сусветнай вайны і іншых войнаў, якія вяла імперыя. Вялікая ідэя бязлітасна пажырала сваіх дзяцей. Ідэям не баліць. Шкада людзей.

У перабудову мы марылі пра свабоду, а апынуліся ў зусім іншым пункце гісторыі. На постсавецкай прасторы замест свабоды расквітнеў аўтарытарызм розных масцей — расейскі, беларускі, казахскі... Павольна і няўпэўнена выбіраемся мы з-пад абломкаў «чырвонай» імперыі. Адна з гераіняў маёй кнігі «Час second-hand», у якой уся сям'я была высланая ў Сібір і там загінула, са слязамі на вачах спявала, калі мы сядзелі ў яе на кухні:

Утро красит нежным светом
Стены древнего Кремля,
Просыпается с рассветом
Вся советская земля…
Кипучая,
Могучая
Никем непобедимая
Страна моя,
Москва моя,
Ты самая любимая…

Мінуўшчына не выпускала яе са сваіх драпежных абдымкаў. Яе навучылі верыць, у ёй усё яшчэ жыла тая дзяўчынка, у якой Сталін калісьці забраў усё, а яна ўсё роўна верыла. У што?

Я хачу расказаць пра маю краіну — Беларусь. У Мінску ў аэрапорце, калі я ляцела ў Варшаву, да мяне падышлі дзве маладыя дзяўчыны, яны плакалі: «Дзякуй вам! Разумееце, мы цяпер ёсць! Цяпер усе ведаюць, дзе Беларусь!» Гэтую падзяку я перадаю ўсім вам.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**У аўторак дзясяткі людзей сустрэлі Святлану Алексіевіч у мінскім аэрапорце кветкамі і караваем.**

Пасля 1991 года, калі Беларусь атрымала незалежнасць, ужо вырасла некалькі пакаленняў. У кожнага з іх была свая рэвалюцыя, яны выходзілі на Плошчу, яны хацелі жыць у вольнай краіне, іх збівалі, адпраўлялі ў турмы, выганялі з інстытутаў, звальнялі з працы. Наша рэвалюцыя не перамагла, але героі рэвалюцыі ў нас ёсць.

Свабода — гэта не хуткае свята, як мы марылі. Гэта — шлях. Доўгі шлях. Цяпер мы гэта ведаем.

Мы ўсе жывём у супольным свеце. Ён называецца Зямля. У гэтым нашым свеце зрабілася няўтульна. Уключаеш тэлевізар, і там, захлынаючыся ад захаплення, дыктар расказвае пра новыя вайсковыя самалёты, караблі... На расейскай, англійскай і іншых мовах. Зноў наступіла эпоха варварства. Эпоха сілы. Дэмакратыя адступае. Узгадваюцца 90-я гады... Тады ўсім нам здавалася — і вам, і нам, — што мы ўступілі ў бяспечны свет. Я памятаю дыялогі Гарбачова з Далай-ламам пра будучыню, пра канец гісторыі... Сёння ўсё гэта здаецца прыгожай казкай. Цяпер мы сведкі новай схваткі дабра і зла. Сведкі і ўдзельнікі.

Што можа мастацтва? Мэта мастацтва — назапашваць чалавека ў чалавеку. Але калі я была на вайне ў Афганістане і цяпер, калі размаўляла ва Украіне з уцекачамі з Данбаса, я чула, як хутка злятае з чалавека культура і выпаўзае пачвара. Выкрываецца звер... Але я пішу... працягваю пісаць... Пішу, як вучылі мяне мае настаўнікі, беларускія пісьменнікі Алесь Адамовіч і Васіль Быкаў, якіх у гэты дзень я хацела б прыгадаць з удзячнасцю. Як вучыла мяне мая ўкраінская бабуля, якая ў дзяцінстве чытала мне «Кабзар» Тараса Шаўчэнкі на памяць. Пішу нашто? Мяне называюць пісьменнікам катастрофаў, гэта няпраўда, я ўвесь час шукаю словы любові. Нянавісць нас не ўратуе. Нас уратуе толькі любоў. Я спадзяюся...

На развітанне я хацела б, каб у гэтай цудоўнай зале прагучала беларускае слова, мова майго народа:

*У адной беларускай вёсачцы старая жанчына праводзіла мяне са словамі: «Хутка мы разыдземся з табой у розныя бакі. Дзякуй табе, што ты слухала мяне і панясеш маю больку людзям. Прашу цябе, калі пойдзеш, агляніся на маю хатку. Агляніся не адзін, а два разы. Другі раз чалавек аглядваецца не па чужынцы, а ўжо з сэрца...*

Я хачу падзякаваць вам за ваша сэрца, за тое, што вы пачулі наш боль.

## Расійскія аўтары пра Алексіевіч: «нобелеўская ганьба», «нахабная брахня»

Чаму **ў Расіі** беларускага нобелеўскага лаўрэата **бэсцяць**, як калісьці Пастарнака і Салжаніцына?

«Я не чытаў ні «дакументальных» кніг Алексіевіч, ні яе нобелеўскую прамову. Мне хапіла трох абзацаў з каталонскай газеты, каб зразумець — яна брэша», — напісаў на папулярным шавіністычным сайце «Взгляд» Антон Крылоў. Гэта да болю нагадала славутае «Пастарнака не чыталі, але асуджаем».

Чаму расійскія СМІ працягваюць кампанію дыскрэдытацыі нобелеўскай лаўрэаткі Святланы Алексіевіч? І як яны гэта робяць? Лічым патрэбным знаёміць беларускага чытача з вытрымкамі аднаго з такіх тыповых артыкулаў.

«Трэба аддаць належнае езуіцтву Нобелеўскага камітэта, — піша ў сваім блогу на сайце «Руская idea» Вольга Туханіна. — Нельга было даваць прэмію грамадзянцы Расіі. Хітры Пуцін тут жа прысабечыў бы яе, павіншаваў бы аўтара, запрасіў бы ў Крэмль. Не ісці? Ды нейк па-дурному. У засценкі ніхто не цягне. Наадварот — дорацы букеты і клічуць на федэральныя каналы. Таму выбар і ўпаў на Алексіевіч. Прэмія дасталася Беларусі, а не Расіі. Разам з тым, кнігі Алексіевіч напісаныя на рускай, і ў прамове сваёй яна больш кажа пра рускіх, чым пра каго-небудзь яшчэ. Гэты хітры трук выкарыстоўвае не толькі Нобелеўскі камітэт. Ён характэрны для многіх былых грамадзян Савецкага Саюза, якія жывуць сёння ў блізкім замежжы. «Да нас вы не лезьце, мы незалежныя, а вось пра вас мы будзем разважаць з веданнем справы — мы ж з Саюза, усё пра гэтых рускіх ведаем і гатовыя распавесці пра іх усяму астатняму свету». Так, як свет павінен пачуць. Звыклае: Сталін, гарэлка, ГУЛАГ, балалайка, тысячагадовыя рабы ў вушанках з вялізнымі чырвонымі зоркамі.

Вось Алексіевіч і расказвае, карыстаючыся для гэтага самай высокай літаратурнай трыбунай, магчымай у гэтым свеце. І свет слухае і, спакайнеючы, кажа сабе: «Ну, мы прыблізна так і думалі».

Многія, каментуючы нобелеўскую прамову Алексіевіч, асаблівую ўвагу звярталі на русафобію гэтага выступу. Шчыра кажучы, ніякай асаблівай русафобіі я там не ўбачыла. Алексіевіч карыстаецца танным, увогуле, прыёмам: гэта не яна кажа пра рускіх, а нібыта самі рускія распавядаюць пра сябе. Гэта яны аўтарусафобы, не яна. А яна ўсіх шкадуе.

Таму, на мой погляд, у прамове лаўрэата-2015 два асноўныя складнікі. Па-першае, Алексіевіч пастаянна апраўдваецца за тое, што яна не пісьменнік, спрабуючы даказаць: тое, што яна робіць у сучасным свеце і ёсць сапраўдная літаратура. Па-другое, яна старанна, як школьніца-камсамолка, цісне ў сваё пасланне ўсе ходкія штампы аб Расіі.

І вось тут, менавіта ў яе прамове, на паверхню выплывае самая непрыхавальная праўда. Святлана Алексіевіч абуральна бяздарная. Гэта, як раней казалі, пераможная шэрасць. У чалавека абсалютная літаратурная глухата: на слова, на асацыяцыі, на алюзіі.

Яна слухае, быць можа, так, але нічога не чуе і не разумее.

Усе героі яе інтэрв'ю стылістычна тлумачацца цалкам аднолькава. Старыя, маладыя, ветэраны Вялікай Айчыннай і ветэраны Афганістана, жанчыны, мужчыны — усе яны да аднаго прыдуманыя, усё гэта бясконца фальшыва. Усе яе героі кажуць наўзрыд, усе яны бясконца пакутуюць. Гэты жанр у нашай літаратуры заўсёды называўся «вагонная песня». А пракурор пазнаў у ёй сваю дачку. Гэта было ў аўторак. Саплівы пераказ жахаў вайны для цётак, якія лічаць сябе інтэлігенткамі. Глядзіце самі, вось адзін з пераказаў пісьменніцы пра жанчыну-санінструктара, якая рухалася зімой праз Ладажскае возера ноччу і раптам пачаўся абстрэл. Санінструктар схапіла параненага і расказвае: «Валаку яго мокрага, голага, думала, вопратку сарвала. А на беразе зразумела, што прыцягнула велізарную параненую бялугу. І загнула такога трохпавярховага мату — людзі пакутуюць, а звяры, птушкі, рыбы — за што?» Жудасным смехам рагоча Станіслаўскі. Не веру! Не веру! Алексіевіч наогул ведае, як выглядае бялуга, якая яна навобмацак? Але нават калі дапусціць, што ёй пратравілі вайсковую байку, то рэакцыя санінструктара цалкам выдуманая манернай дамай. На вайне, пад Ленінградам, прыцягнуць бялугу памерам з чалавека — тут не да трапяткіх разважанняў Андрэя Балконскага, тут юшка, ежа і жыццё для ўсіх. Велізарны поспех.

Уласна, так і ва ўсім астатнім», — падсумоўвае расійскі крытык.

# Раўкоў: Беларусь ніколі не будзе ўцягнутая ў чужыя войны і канфлікты

Заяву аб тым, што Беларусь ніколі не будзе ўцягнутая ў чужыя войны і канфлікты, зрабіў міністр абароны Беларусі Андрэй Раўкоў падчас цырымоніі прыняцця вайсковай прысягі асабовым складам 72-га гвардзейскага аб'яднанага вучэбнага цэнтра падрыхтоўкі прапаршчыкаў і малодшых спецыялістаў.



Андрэй Раўкоў адзначыў, што сёння самае галоўнае для сусветнай супольнасці пытанне — як захаваць мір на планеце і галоўнае права чалавека — права на жыццё.

Па словах кіраўніка абароннага ведамства, у гэтых умовах пазіцыя беларускіх уладаў выразная і бескампрамісная: Беларусь ніколі не будзе ўцягнутая ў чужыя войны і канфлікты і заўсёды будзе абаронена ад любых замахаў.

Каб падтрымаць мір і бяспеку, праводзіцца шматвектарная, міралюбная замежная палітыка, працягваецца развіццё Узброеных Сіл, якія застаюцца найважнейшым фактарам стрымлівання ад спроб размовы з нашай краінай з пазіцыі сілы, падкрэсліў Андрэй Раўкоў.

БелТА



## «Між нашай Расіяй і сяброўскай нам Турцыяй»

«Памылкі ў гэтым бурным свеце непазбежныя, і іх трэба не нагнятаць, а вырашаць. Прабачце мне, гэта тычыцца і апошняга канфлікту паміж нашай Расіяй і сяброўскай нам Турцыяй», — заявіў Аляксандр Лукашэнка ў Ашхабадзе падчас саміта 18 краін з удзелам прэзідэнта Турцыі Эрдагана

## МУС Беларусі накіравала ў СК матэрыялы наконт 12 удзельнікаў баёў на Данбасе з абодвух бакоў

Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі накіравала ў Следчы камітэт матэрыялы ў дачыненні да 12 меркаваных удзельнікаў баявых дзеянняў на Данбасе, паведаміў журналістам у аўторак у Мінску кіраўнік МУС Беларусі Ігар Шуневіч.

«Ёсць матэрыялы праверак, яны накіраваны ў Следчы камітэт. Агульны спіс меркаваных удзельнікаў баявых дзеянняў (грамадзян Беларусі) — больш за 100, матэрыялы ў Следчы камітэт накіраваныя ў дачыненні да 12», — сказаў Шуневіч.

Міністр падкрэсліў, што грамадзяне, у дачыненні да якіх матэрыялы накіраваныя ў Следчы камітэт, падазраюцца ва ўдзеле ў баявых дзеяннях з абодвух бакоў канфлікту на Данбасе. «У нас абсалютна неперадузятае стаўленне», — адзначыў Шуневіч.

Ён растлумачыў, што Следчы камітэт, у сваю чаргу, прыме рашэнне аб завядзенні крымінальных спраў. «Следчы камітэт або знойдзе падставы для завядзення крымінальных спраў (па матэрыялах нашых праверак падставы ўжо ёсць) альбо адмовіць у завядзенні крымінальных спраў. У любым выпадку, рашэнне будзе прымаць следчы», — сказаў на заканчэнне міністр.

## Лукашэнка — Пуціну: Мы добра ведаем, чаго хоча Расія ад Беларусі

Аляксандр Лукашэнка ўпэўнены ў яшчэ большым збліжэнні беларускага і расійскага народаў. Аб гэтым кіраўнік дзяржавы заявіў 15 снежня ў Маскве на сустрэчы з прэзідэнтам Расіі Уладзімірам Пуціным у вузкім складзе.

«Мы выдатна ведаем, што трэба, чаго хоча Расія ад Беларусі, — сказаў Лукашэнка. — Упэўнены, што Расія абсалютна ведае, што трэба Беларусі ад Расіі.

Я думаю, што рашэнне тых праблем, якія ў нас існуюць, яшчэ больш зблізіць нашы народы. Хоць, шчыра кажучы, мераць нас з вамі класічнымі рамкамі ўзаемаадносін з іншымі нейкімі дзяржавамі нейк нават і нязручна, бо ў нас настолькі блізкія адносіны, што тут не падыходзяць гэтыя крытэры», — сказаў ён.

## Макей сустрэўся ў Брусэлі з кіраўніцтвам НАТА і еўрапейскай дыпламаты

Міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей абмеркаваў актуальныя пытанні супрацоўніцтва Беларусі з ЕС і НАТА ў ходзе рабочага візіту ў Брусэль 13—14 снежня, паведамляе прэс-служба МЗС.

Макей сустрэўся з міністрамі замежных спраў краін — членаў Еўрасаюза, у ходзе якой бакі абмяняліся думкамі пра стан і перспектывы ўзаемадзеяння Беларусі і Еўрасаюза.

Кіраўнік МЗС Літвы Лінас Лінкявічус у сваім твітар-акаўнце ахарактарызаваў атмасферу на перамовах як «канструктыўную і добразычлівую». Літоўскі міністр таксама заявіў аб адабрэнні «першых крокаў Беларусі» і чаканні прагрэсу ў пытаннях правоў чалавека і дэмакратыі.

Запіс з падобным зместам з'явіўся і ў твітары міністра замежных спраў Славакіі Міраслава Лайчака.

Міністр замежных спраў Аўстрыі Себасціян Курц па выніках сустрэчы таксама заявіў у твітары, што спадзяецца на далейшы прагрэс у Беларусі, і пазітыўна ацаніў ролю Мінска ва ўрэгуляванні канфлікту ва Украіне.



Уладзімір Макей і Федэрыка Магерыні.

Кіраўнік замежнапалітычнага ведамства Беларусі таксама правёў перамовы з Высокім прадстаўніком ЕС па замежнай палітыцы і палітыцы бяспекі Федэрыкай Магерыні, еўракамісарам па Еўрапейскай палітыцы суседства і перамовах аб пашырэнні ЕС Яганэсам Ханам, намеснікам генеральнага сакратара НАТА Аляксандрам Вершбоў.

## АГП, рух «За Свабоду» і БХД ствараюць чарговую кааліцыю

«Гавары праўду», БНФ і «Справядлівы свет» пакуль не далучаюцца.

Рух «За Свабоду», Аб'яднаная грамадзянская партыя (АГП) і аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» (БХД) заявілі аб стварэнні пляцоўкі для сумеснай працы.

Пра гэта сказаў старшыня АГП Анатоль Лябедзька 13 снежня ў Мінску на сумеснай прэс-канферэнцыі з першым намеснікам старшыні руху «За Свабоду» Юрасём Губарэвічам і сустаршынёй аргкамітэта БХД Віталём Рымашэўскім.

«Мы маглі б гаварыць і аб кааліцыі, але ведаем, наколькі гэтае паняцце ў апошні час дэвальвавалася, — дадаў Лябедзька. — Таму не будзем спяшацца, хаця вы можаце называць нас як заўгодна. Справа цяпер не ў назве, а ў тым, што мы будзем рабіць сёння, заўтра і паслязаўтра. Таму гэта пляцоўка для сумеснай працы, якая можа выйсці на стварэнне сур'ёзнай кааліцыі, якая сваімі справамі дакажа, што яна кааліцыя».

Выглядае на тое, што прадстаўнікі гэтых палітычных структур выстаўляць адзіны спіс на парламенцкіх выбарах сёлета.

Мы спыталіся ў прадстаўнікоў «Гавары праўду», Партыі БНФ і «Справядлівага свету», ці гатовы яны далучыцца да новай кааліцыі.

**Андрэй Дзмітрыеў, кіраўнік «Гавары праўду»:** «Кааліцыя часткі правых будзе добрай справай, калі яны сканцэнтруюцца на працы з людзьмі. Такое мы можам вітаць і гатовыя размаўляць з прадстаўнікамі кааліцыі, калі ён будзе вызначаны і як толькі будзе апублікаваны план дзеянняў і падыход да выбараў. Калі ёсць супольны інтарэс і канкрэтны план, які дапамагае прасунуць перамены ў Беларусі, мы гатовы працаваць. Губляць час за сталом пустых словаў мы не будзем, не важна, з правай ягонай часткай ці левай».

**Аляксей Янукевіч, старшыня Партыі БНФ:** «Далучацца да гэтай кааліцыі на сёння нам нецікава. На парламенцкія выбары БНФ пойдзе сваім спісам».

**Сяргей Калякін, кіраўнік «Справядлівага свету»:** «Гэта правая кааліцыя. Дзе вы бачылі, каб да правых кааліцый далучаліся левыя? Калі гаворка будзе весціся пра шырокую кааліцыю за перамены, то мы, натуральна, гатовыя».

Зміцер Панкавец

## Пуцін дазволіў судам Расіі ігнараваць рашэнні ЕСПЧ

Ці выключаць Расію з Рады Еўропы?

Прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін падпісаў закон, які дазваляе Канстытуцыйнаму суду прызнаваць невыканальнымі рашэнні міжнародных судоў, перш за ўсё Еўрапейскага суда па правах чалавека (ЕСПЧ), у выпадку калі іх рашэнні супярэчаць расійскай канстытуцыі.

Закон уносіць змены ў Федэральны закон «Аб Канстытуцыйным судзе РФ». Дакумент быў апублікаваны на афіцыйным партале прававой інфармацыі.

Цяпер Канстытуцыйны суд атрымаў права цалкам і часткова адпрэчваць рашэнні ЕСПЧ.

Мы спыталіся ў палітолага Алеся Лагвінца, якія гэта будзе мець наступствы для Расіі.

«Гэта, відавочна, парушэнне еўрапейскай Канвенцыі аб правах чалавека, да якой далучылася Расія. З боку Рады Еўропы трэба чакаць адпаведнай рэакцыі, аж да выключэння Расіі. У еўрапейскім разуменні правоў чалавека Страсбургскі суд прымае канчатковыя рашэнні, а дзяржавам нічога не застаецца, як толькі выконваць гэтыя рашэнні».

ЗП

# Каму належыць радыёэфір?

У сталіцы вяшчае **два дзясяткі станцый**.

Паводле статыстыкі, 62% беларусаў перыядычна слухаюць радыё, а кожны чацвёрты робіць гэта штодня як мінімум на працягу гадзіны.

Аднак пры гэтым беларускі рынак радыё застаецца ў сонным стане. Станцыі вяшчаюць бясплатна, зарабляючы толькі на рэкламе і дадатковых паслугах, накшталт віншаванняў і замоўленых песень. Сукупны рэкламны рынак радыёстанцый пры гэтым не перавышае $5 мільёнаў.

Асноўны гулец на радыёрынку — дзяржава і падкантрольныя ёй структуры, накшталт прафсаюзаў і БРСМ.

Беларускія бізнэсоўцы не ўспрымаюць радыё як выгадную інвестыцыю. Частоты ў Мінску занятыя, увайсці новым гульцам на рынак надзвычай складана.

Ад часу закрыцця «Беларускай маладзёжнай» інфармацыйных радыёстанцый у ФМ-дыяпазоне няма. Усе яны забаўляльныя. Да таго ж правіла «75% беларускай музыкі» дагэтуль фармальна ніхто не адмяняў, таму плэй-лісты падобныя адзін да аднаго.

Год таму вынікі свайго даследавання папулярнасці радыёстанцый апублікаваў Інфармацыйна-аналітычны цэнтр пры Адміністрацыі прэзідэнта. Паводле падлікаў чыноўнікаў, наперадзе рэйтынгу аказаліся дзяржаўныя «Радыус ФМ» і «Першы нацыянальны канал», якія маюць максімальны ахоп тэрыторыі вяшчання.

### Наперадзе «Русское радіо» і «Юністар»

Якія радыёстанцыі карыстаюцца найбольшай папулярнасцю ў сталіцы?

Месяц таму прыватная кампанія *Nielsen Admosphere* правяла сваё даследаванне. Метадалогія падлікаў не паведамляецца, але, найхутчэй, апытанне праводзілася ў Мінску, бо перамаглі сталічныя радыёстанцыі.

Па выніках гэтага даследавання самым папулярным аказалася «Русское радіо», адметнасць якога — трансляцыя толькі рускамоўнай музыкі.

«Русское радіо» (17% рынку) працуе ў Мінску і Магілёве, але фармальна гэта розныя структуры. Яны часткова рэтранслююць эфір аднайменнай расійскай радыёстанцыі, дадаючы некалькі сваіх праграм.

Арыгінальнае «Русское радіо» належыць «Расійскай медыягрупе» мільянераў Вагіта Алекперава і Леаніда Федуна. Зрэшты, апошнім часам вакол радыё разгарэўся скандал, іх бізнэс спрабуюць перадаць у кіраванне расійскаму «Дзяржканцэрту».

Адсутнасць беларускамоўных песень — прыкмета і другога па папулярнасці радыё. Сярод заснавальнікаў «Юністара» (15%) указаныя Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт і нямецкая кампанія *MediaInvest Gmbh*. «Юністар» можна злавіць вакол Мінска і Брэста.

### Дзяржаўная радыёімперыя

У тройку найлепшых патрапіла яшчэ і «Новае радыё» (13%) — гэта адна з медыяструктур Федэрацыі прафсаюзаў. Таму ж гаспадару належыць і «Народнае радыё» (1%).

Дзве частаты мае і Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі. Іх станцыі — «Пілот ФМ» (4%) і «Душэўнае радыё» (1%).

Найбольшую колькасць радыёстанцый мае Белтэлерадыёкампанія. У яе структуру ўваходзяць «Радыус ФМ» (5%), «Першы нацыянальны канал» (3%), «Сталіца» (1%), «Культура» (1%) і міжнароднае радыё «Беларусь».

«Сталіца» некалькі гадоў таму атрымала частату, якая вызвалілася пасля закрыцця «Аўтарадыё». Перад выбарамі 2010 года прыватная станцыя транслявала рэкламны ролік Андрэя Саннікава і Уладзіміра Някляева, і чыноўнікі не даравалі гэтага.

Радыёстанцыі ёсць і ў іншых тэлеканалаў. Гэта радыё «Мір» ад Садружнасці незалежных дзяржаў і радыё «АНТ».

Свае частоты выдзеленыя абласным радыёстанцыям. Радыё Мінскай вобласці называецца «Мінская хваля», а сталічная станцыя — радыё «Мінск». Іх доля не перавышае 1%.

А вось анансаванае банкруцтва ЗАТ «Альфа-радыё» аказалася пшыкам. Як выявілася, на дзейнасць аднайменнай радыёстанцыі, якую цяпер кантралюе «Савецкая Беларусія», гэта ніяк не паўплывае.

### Адзінкавыя прыватнікі

Імаверная навіна радыёрынку — вяртанне расійскай ліцэнзіі «Еўропы плюс». Станцыя мае з'яўіцца на частотах цяпершняга «Хіт-Радыё» (1%), якой валодае кампанія Алы Касцялей.

Гэта адзін з нямногіх прыватных гульцоў на рынку. Апроч яе, справы вядзе Яўген Шарашэўскі, якому належаць радыё «Бі-Эй» (1%) і «Мелодіі века» (4%).

**Доля радыёстанцый на рынку Мінска**

1. «Русское Радио» — 17%
2. Юністар — 15%
3. «Новае радыё» — 13%
4. «Радыё Рокс» — 10%
5. «Радыус ФМ» — 5%
6. «Юмор ФМ» — 5%
7. «Мелодии века» — 4%
8. «Пілот ФМ» — 4%
9. «Першы канал» — 3%

Іншыя — 24%

Выкарыстанне расійскіх ліцэнзій — адзін са шляхоў атрымаць аўдыторыю. Напрыклад, адкрыты летась забаўляльны «Юмор ФМ» (гаспадар — «Газпром Медыя») даволі хутка забраў сабе 5%. Сама станцыя пераважна рускамоўная, але навіны і прагноз надвор'я зачытваюцца пабеларуску.

Яшчэ адно недзяржаўнае радыё — «Рокс», якое цяпер спецыялізуецца на шансоне. Гаспадар той самы, што і ў беларускага аддзялення «Русского радіо». Станцыі маюць аднолькавы адрас, не адрозніваюцца і выпускі навінаў.

**Ягор Марціновіч**

## Сцісла

### Навагодні мараторый на рост цэн

Міністэрства гандлю загадала не павышаць цэны ў перадсвяточныя і святочныя дні. Адна з задач мараторыя — стрымліванне інфляцыі. Па стане на канец лістапада цэны выраслі на 10,7%.

### Выйгрышы ў казіно абкладуць падаткам?

Міністэрства па падатках і зборах прапануе адмяніць каля 15 падатковых ільгот. У гэтую катэгорыю трапілі і выйгрышы ў казіно, таталізатарах, букмекерскіх кантарах. Калі парламент прыме такі закон, то пераможцы будуць плаціць 4% ад сумы. Прычым не ад сумы выйгрышу, а ад сумы агульнай стаўкі.

### Праезд падаражэе

Кошт праезду будзе павялічаны ўжо ў снежні. Адна паездка ў сталічным наземным транспарце абыдзецца 5000 рублёў, а ў метро — 5500 рублёў. У рэгіёнах цана праезду ў грамадскім транспарце будзе павялічаны да 4000 рублёў.

### Украінская эканоміка аднавіла рост

За апошні год золатавалютныя рэзервы Украіны выраслі з $6 да $13 мільярдаў. У чацвёртым квартале 2015 года таксама ўпершыню будзе зафіксаваны эканамічны рост — пасля сямі запар кварталаў падзення. Паводле прагнозаў, ён складзе ад 0,7 да 1%. Агулам за 2014—2015 гады ўкраінская эканоміка скарацілася прыкладна на 20% у выніку анексіі Крыма і агрэсіі ў Данбасе.

### Гастарбайтары пераслалі з Расіі $53 мільёны

Гэта дадзеныя Цэнтрабанка Расіі па грашовых пераводах, якія беларусы ажыццявілі на працягу студзеня-кастрычніка 2015 года. Летась за аналагічны перыяд лічба складала $67 мільёнаў.

### Кітай зноў дэвальваваў юань

Народны банк Кітая панізіў курс нацыянальнай валюты да 6,42 юаня за даляр. Гэта мінімальнае значэнне са жніўня 2011 года.

**СГ, ЯМ**

# Дзяніс Кур'ян адкрыў у Мінску ўласную блінную




Ягоная «**Мама дома**» — спалучэнне фастфуду і хатніх страваў.

У новым гандлёвым цэнтры «Момо», што на выхадзе са станцыі метро «Магілёўская», адкрылася блінная знакамітага беларускага тэлевядучага Дзяніса Кур'яна. Яна называецца «Мама дома». Гэта першая блінная вядучага ў Мінску, раней бліны «Мама дома» можна было паесці толькі ў Віцебску.

Блінная абяцае спалучэнне фастфуду і хатніх страваў. «Наша Ніва» праверыла смак бліноў ад «Мамы дома».

У дзень адкрыцця Дзяніс Кур'ян таксама ўдзельнічаў у працэсе, час ад часу дапамагаючы сваім супрацоўнікам. «Я тут асабліва не працую, проста вырашыў дапамагчы».

Замову прыйшлося чакаць не доўга — каля 4—5 хвілін. Падкупляе тое, што ты сам можаш назіраць працэс гатавання.

Наша замова складалася з бліноў з грыбамі ў вяршках і курыцай, бліноў са згушчоным малаком і кавы амерыканы ад Дзяніса Кур'яна. Усё гэта абышлося ў 100 тысяч рублёў.

**Мікіта Недаверкаў**




## Фотафакт

### Турыст убачыў «Маціас» у Новай Зеландыі

«Зайшоў у супермаркет у Велінгтане і зразумеў, што мы, беларусы, не прападзём. Калі мы ўмеем прадаваць марскую рыбу самай далёкай ад нас марской дзяржаве за 17 тысяч кіламетраў, то дакладна ў нашай нацыі вялікая будучыня», — напісаў журналіст Франак Вячорка, які адправіўся ў вандроўку ў Новую Зеландыю і ўбачыў у адной з тамтэйшых крам селядзец ад «Маціас»!

# Мікалай Януш — першы футбаліст, які загаварыў па-беларуску

Цырымонія ўзнагароджвання найлепшых футбалістаў года адзначылася нечаканкай. Найлепшы бамбардзір і нападнік чэмпіянату Беларусі Мікалай Януш сваю ўрачыстую прамову сказаў па-беларуску.

«Я вельмі задаволены, што другі год запар стаў найлепшым бамбардзірам нашага чэмпіянату. Але гэта не толькі мой поспех. Са мной была каманда: гульцы, трэнеры, лекары, кіраўнікі, кухары з базы. А што тычыцца ўзнагароды найлепшаму форварду, дык я ганаруся і вельмі задаволены. Быць найлепшым заўсёды прыемна. Дзякуй за ўвагу», — сказаў Януш.

«Наша Ніва» прасіла форварда «Шахцёра» пра інтэрв'ю, але Януш адмовіўся. «Ай, ну перастаньце. Не хачу піярыцца за кошт беларускай мовы», — сказаў ён. Нават у гэтым увесь Януш.

«Я — просты вясковы мужык. Прыемна, калі мяне так называюць», — казаў калісьці Януш. Яму 31 год, нарадзіўся ў Мікашэвічах. Гэта самая глуш Палесся, там, дзе знайшлі гіганцкае радовішча граніту. Бацькі таксама мясцовыя. Школу Януш скончыў амаль на выдатна, толькі з некалькімі чацвёркамі.

Менавіта ў сваім «гранітным» горадзе ён працягвае жыць па сёння, хоць, маючы ягоныя заробкі, лёгка мог дазволіць сабе жыллё ў Мінску. На работу Януш штодня ездзіць на аўтамабілі з Мікашэвіч у Салігорск — 73 кіламетры ў адзін бок.



У вышэйшай лізе Януш дэбютаваў адносна позна — у 24 гады. Менавіта тады мікашэвіцкі «Граніт» упершыню заслужыў права гуляць у элітным дывізіёне. Пасля было брэсцкае «Дынама», апошнія гады ён гуляе ў «Шахцёры».

Кіраўнік БАТЭ Анатоль Капскі нядаўна сказаў, што, мабыць, Януш шкадуе, што ў свой час не прыняў прапанову барысаўскага клуба.

Можна сказаць, што шмат у чым Януш — гэта апошні прадстаўнік старой генерацыі футбалістаў. Ён не ходзіць у начныя клубы, не вядзе інстаграм, не хваліцца сяброўкай з напампаванымі сіліконам вуснамі і не толькі: не ездзіць на адпачынак у Дамініканскую Рэспубліку, а аддае перавагу беларускім санаторыям. Прыкладна такімі ж былі англійскія футбалісты яшчэ ў канцы 1980-х — пачатку 1990-х. Без пантоў і дарагіх кантрактаў.

Сам Януш кажа, што на яго ўплыў аказалі кнігі папулярызатара беларускай гісторыі Вадзіма Дзеружынскага, якія парэкамендаваў брамнік мінскага «Дынама» Васіль Хамутоўскі.

Футбаліст расказваў, што заўсёды дапамагае сыну рабіць урокі па беларускай мове і літаратуры. А яшчэ вельмі зайздросціць свайму аднаклубніку Саўлюсу Мікалюнасу, які, калі тэлефануе дадому, размаўляе толькі па-літоўску.

**Зміцер Панкавец**



**Ігар Стасевіч — найлепшы футбаліст Беларусі**

Паводле апытання трэнераў, футбалістаў і журналістаў, найлепшым футбалістам краіны ў 2015 годзе названы паўабаронца барысаўскага БАТЭ Ігар Стасевіч. Другое месца заняў Цімох Калачоў з «Ростова», а трэцяе — брамнік грэцкага «Атраміταса» Андрэй Гарбуноў.

Ігар Стасевіч — адзіны карэнны барысавец, які гуляе ў асноўным складзе БАТЭ. Ён вырас у доме проста насупраць старога стадыёна. У 2010 годзе сышоў з БАТЭ, а сёлета трыумфальна вярнуўся.



**У Аляксандра Глеба новая сяброўка**

Самы вядомы футбаліст Беларусі XX стагоддзя пасля перапынку звязаў сябе рамантычнымі адносінамі. Новая дзяўчына Глеба — Святлана Губарэвіч. Яна некалі выйгравала конкурс «Супермадэль Беларусі», а цяпер яны з сястрой валодаюць крамай адзення. Пара разам ужо сем месяцаў, але доўгі час трымалі адносіны пад сакрэтам. Раней Аляксандр Глеб быў жанаты з экс-салісткай гурту «Топлес» Настай Касянковай, але пасля 7 гадоў сумеснага жыцця яны развяліся. На сёння Аляксандр Глеб з'яўляецца футбалістам БАТЭ, яму 34 гады. «Да 40 гадоў у футболе, як Кульчы, баюся, не датрымаюся», — нядаўна сказаў Глеб.





## Былы палітвязень Юры Рубцоў папрасіў палітычнага прытулку ў Нямеччыне

Паводле звестак ад Юрыя Рубцова, ён разам з жонкай цяпер знаходзіцца ў лагеры для ўцекачоў у Нюрнбергу.

«Па патрабаванні сына і жонкі я быў вымушаны пакінуць Беларусь і папрасіць палітычнага прытулку ў Нямеччыне, — напісаў ён. — Мяне адмыслова не бралі на працу на радзіме, і ў выпадку няВыплаты падатку за дармаедства я зноў трапіў бы за краты».

«Цяпер мы з жонкай знаходзімся ў палатцы ў лагеры для ўцекачоў у Нюрнбергу. Не магу назваць умовы добрымі, але ў абарону Нямеччыны хачу сказаць, што захапляюся гэтай краінай, якая пасля Другой сусветнай вайны дала прытулак стольк ім уцекачам», — заявіў Рубцоў.

Сёлета Юры Рубцоў быў вызвалены з-за кратаў паводле ўказа Аляксандра Лукашэнкі. Актывіст адбываў тэрмін у 2 гады за ўхіленне ад працы, якія атрымаў за тое, што на «хіміі» адмовіўся працаваць за мізэрны заробак. На «хімію» Юры Рубцоў патрапіў за тое, што зняважыў суддзю, які судзіў яго напалову распранутага — міліцыянты сарвалі з Рубцова майку з надпісам «Лукашэнка сыходзь».

**Чытайце belsat.eu**

# Як беларуская студэнтка каардынуе бунт дальнабойшчыкаў у Маскве

Звычайныя людзі тыднямі падтрымліваюць пратэстоўцаў, возяць ім ежу і грошы. Інтэрнэт-часопіс Kyky.org пагаварыў з Таісай Нікіценка — студэнткай-журналісткай з Віцебска, якая стала прэс-сакратаркай лагера пратэсту дальнабойшчыкаў у падмаскоўных Хімках. Чаму Тася абрала для сябе гэты шлях і чым жыве лагер фур і іх кіроўцаў? Гісторыя далучэння Таісы Нікіценка да пратэстаў расійскіх дальнабойшчыкаў простая, і Тася не бачыць у ёй ніякага гераізму.

**Што адбываецца і супраць чаго бунтуюць?**

15 лістапада ў Расіі быў запушчаны «Платон» — сістэма аплаты за праезд вялікагрузных аўтамабіляў па федэральных трасах РФ. Назва — скарачэнне ад «плаці за тоны». І тарыфы, і штрафы былі непад'ёмныя. Такім чынам улады хацелі папоўніць бюджэт, які трашчыць па швах у выніку падзення расійскай эканомікі.

11 лістапада дальнабойшчыкі пачалі першыя акцыі пратэсту. Праз тыдзень акцыі ахапілі ўжо 24 рэгіёны Расіі. 25 лістапада кіроўцы з усёй Расіі заявілі, што маюць намер рушыць маршам на Маскву. Праз два дні ў Маскву ўехала 200 дагестанскіх фур, а 4 лістапада фурам удалося часткова перакрыць МКАД, аднак у цэлым «паход на Маскву» быў сарваны.

Пад Масквой дальнабойшчыкі разбілі два лагеры: адзін — на паўднёвым ускодзе, на Кашырскай шашы, другі — на паўночным захадзе, у Хімках.

Пуцін пайшоў на саступкі, але дальнабоі патрабуюць большага.



Тася Нікіценка на пікеце ў Маскве.

Пачалося ўсё з бутэрбродаў. «Я пабачыла ў твітары, што дальнабойшчыкаў гоняць па Ленінградцы, што хлопцы хочуць паесці і выпіць чаю. Я прывезла ім бутэрброды, і так з імі і засталася», — расказала Тася. Яна дадае: «Мне зразумелая ідэя, за якую яны зараз страйкуюць».

Таіса Нікіценка родам з Віцебска, у Маскву пераехала, каб вучыцца ў маскоўскім Інстытуце журналістыкі і літаратурнай творчасці. Цяпер Тася на другім курсе. Калі яна прыехала ў Хімкі, аказалася, што кіроўцам тут патрэбныя не толькі і не столькі бутэрброды — ім патрэбныя людзі. Каб привозіць ежу, медыкаменты і паліва — дальнабойшчыкі праводзяць на стаянцы круглыя суткі, спяць у сваіх машынах, і паліва ім трэба, каб грэць кабіны. Па-другое, каб распавядаць пра падзеі ў СМІ. Пуцінскія СМІ «зліваюць» пратэст, пішучь пра яго грэбліва.

Інтэрнэт на стаянцы ў Хімках, па словах Тасі, глушаць, стабільнай сувязі няма — уся інфармацыя збіраецца па кавалачках, усе камунікацыі праходзяць не без праблем.

Затое пропускі заняткаў, па яе словах, ва ўніверсітэце прымаюць адэкватна — бо тут яна працуе па сваёй спецыяльнасці.

### Як дальнабойшчыкі прынялі студэнтку Тасю

Увявіце сітуацыю самі: далікатная 19-гадовая студэнтка сярод кіроўцаў фур. «Праблем, цьфу-цьфу, няма, — кажа Тася. — Абераганць мяне і кормяць. І мужыкі зусім не суровыя: добрыя, сумленныя і ганарлівыя. Я іх усіх трошкі люблю».

Пратэсту не ўдаецца разрасціся колькасна, паліцыя, ДІБДР і АМАП проста не прапускаюць грузавікі да стаянкі, перакрываюць усе пад'езды. Але і не разганяюць тых, што ўжо стаяць. Сотні простых масквічоў кожны дзень прывозяць рэчы і высылаюць грошы.

Справаздачы аб тратах грошай, якія расейцы дасылаюць дальнабойшчыкам, Тася кожны вечар выкладае ў сетку: здымае на фота чэкі і посціць іх у фэйсбуку.

**Чытайце: Kyky.org**

# «Спісаць усё на чалавека, які загінуў, — працей за ўсё»

Будаўнік з Ліды загінуў на працы. Следчыя лічаць, што ён сам быў вінаваты, але ўдава дабіваецца, каб завялі крымінальную справу.


Дзмітрый загінуў, дзеці засталіся сіротамі

Сёлета 27 мая Дзмітрый Пенда, 32-гадовы майстар брыгады, якая займалася рамонтам памяшканняў, як звычайна развітаўся з жонкай і дзецьмі і паехаў на работу. Але дамоў ён ужо не вярнуўся. У той жа дзень мужчына загінуў на працы. Афіцыйна — няшчасны выпадак. Аднак Вольга, удава Дзмітрыя, з такой фармулёўкай катэгарычна не згодная.

Дзмітрый працаваў у лідскай фірме «Еўрабудпаслугізаб», узначальваў мантажна-будаўнічую брыгаду. У маі яны працавалі ў будынку хлебазавода Дзятлаўскай філіі Гродзенскага аблспажыўсаюза — тынкавалі сцены. У той дзень Дзмітрый быў на рыштаваннях — рыхтаваў столю. Побач з ім быў нацягнуты металічны трос, на якім трымаліся лямпы асвятлення. Супрацоўнікі Дзмітрыя ўжо адзначалі, што трос трохі б'е токам. Але калі да яго дакрануўся Дзмітрый, здарылася бяда. Калегі заўважылі, што Пенда трымаецца за трос абедзвюма рукамі і яго калоціць — ішоў ток. Адзін з працаўнікоў кінуўся адштурхнуць Дзмітрыя, але сам не змог гэта зрабіць — толькі з дапамогай напарніка. Выклікалі медыкаў, але рэанімаваць Дзмітрыя не ўдалося.

«Лямпа была прыкручаная звычайным алюмініевым дротам, без ізаляцыі — гэта ёсць у заключэнні. Гэта парушэнне. Да таго ж лямпа была няправільна падключана і да размеркавальнага шчыта — там пераблыталі «фазу» і «ноль». Таму ток ішоў нават пры выключаным святле, — кажа Вольга. — Тры месяцы Следчы камітэт праводзіў праверку па гэтым выпадку. Але крымінальную справу так і не завялі».

Кіраўніцтва хлебазавода і «Еўрабудпаслугізаб» прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці і пакаралі штрафамі. Што тычыцца Дзмітрыя, то вырашана было, што ён загінуў па ўласнай неасцярожнасці — калі ён ведаў, што існуе магчымасць удару токам, то павінен быў спыніць працу і вывесці людзей. Аднак гэтага ён не зрабіў — адпаведна, сам вінаваты.

«Там хапае парушэнняў. Высветлілася, што брыгада працавала без адпаведных юрыдычных дакументаў — акт-допуск, нарад-допуск. Іх павінны былі аформіць паміж сабой дзве арганізацыі — Дзятлаўскае райпо і «Еўрабудпаслугізаб». Не было праекта вытворчасці работ... Рабочыя ніякага дачынення да гэтага не мелі: ім сказалі, куды паехаць і што зрабіць — яны і паехалі... — расказвае Вольга. — Да таго ж я не разумею, чаму брыгада працавала ў той кацельні пры ўключаным абсталяванні — хаця там знаходзяцца і выхады печаў, і катлы... На час рамонту трэба было спыняць абсталяванне. Гэтага не зрабілі. Да таго ж там была вельмі высокая вільготнасць. У заключэнні нават узгадваецца, што на мужу былі мокрыя пальчаткі і мокрыя шкарпэткі...»

Супрацоўнікі Дзмітрыя казалі, што былі моманты, калі токам трошкі біла. Яны звярталіся да адміністрацыі хлебазавода, але іх праігнаравалі. У сваю чаргу адміністрацыя іх словы абвяргае.

«Я ведаю, што кіраўнік Дзятлаўскага райпо спакойна працуе, — кажа Вольга. — А на хлебазаводзе таго, хто адказваў за тэхніку бяспекі, проста адправілі на пенсію. І ўсё. Ну так, кіраўніцтва пакаралі штрафамі. Але што ж з тымі дакументамі? Чаму іх не аформілі? Калі б былі падпісаныя акт-допуск і нарад-допуск, то працоўнае месца абавязаны былі б нармальна падрыхтаваць да працы. Абавязкова правялі б інструктаж з будаўнікамі. Гэтага не зрабілі, — сцвярджае Вольга. — Я думаю, што мне адмовілі, бо знайсці адказнага за тое, хто вешаў лямпу, не змаглі».

У жніўні Вольга атрымала першую пастанову аб тым, што крымінальную справу не завядуць. Вольга накіравала скаргу ў пракуратуру. Пракуратура накіравала паперы на даразбор у дзятлаўскі Следчы камітэт. Але пасля даразбору СК ізноў адмовіў у крымінальнай справе. Адпаведную пастанову Вольга атрымала ў канцы лістапада.

«Мне дазволілі азнаёміцца з матэрыяламі той дадатковай праверкі. І з усёй маёй скаргі, якая займала 11 лістоў, яны паднялі толькі адно пытанне. І ўсё, — кажа жанчына. — Буду звяртацца зноў у пракуратуру Дзятлава. Калі яны адмовяць, то буду пісаць у Гродна, затым — у Мінск».

«Я тэлефанавала на прамую лінію, размаўляла з Іванам Карчэўскім, начальнікам упраўлення аховы і дзяржэкспертызы ўмоў працы Міністэрства працы і сацабароны. Ён сказаў, што крымінальная справа заводзіцца, нават калі рабочы проста атрымаў бы траўмы. А ў выпадку, калі не было акта-допуску і нарада-допуску і да таго ж яшчэ загінуў чалавек, то абавязкова павінны завесці крымінальную справу. Аднак ніхто гэтага не робіць», — абураецца яна.

Цяпер 34-гадовая Вольга засталася адна з двума дзецьмі: 14 і 3 гадоў. Дзеля дзяцей яна збіраецца працягваць дамагацца праўды — яна сцвярджае, што Дзмітры не вінаваты, што ён ахвяра чужой абыякавасці.

«На месцы майго мужа мог быць хто заўгодна. Прычым, каб загінуў хтосьці з яго брыгады, то сам Дзмітрый, як майстар, хутчэй за ўсё, трапіў бы ў турму — пра гэта мне казалі нават следчыя», — кажа Вольга.

«А так — «чалавек загінуў? ну і што...» атрымліваецца? Спісаць усё на чалавека, які загінуў, — працей за ўсё. Я хачу, каб кіраўнікі неслі адказнасць за свае прадпрыемствы, — кажа Вольга. — Па-другое, я збіраюся падаваць у суд на Дзятлаўскае райпо. Але ж пакуль не магу — бо смерць майго мужа хочуць прызнаць няшчасным выпадкам. Але ж гэта не так».

**Улад Швядовіч**

**Водгукі**

## Тактычная група «Беларусь» адгукнулася на каментар «Нашай Нівы»

У «Нашай Ніве» (№46) было апублікаванае меркаванне «Украінскай арміі больш не трэба дапамога беларусаў, не адрывайцеся ад радзімы». Яго заўважылі беларусы, што ваююць на баку Украіны ў Данбасе. Вось што яны напісалі на сваёй старонцы ў фэйсбуку.

«Пачнём з досведу. Хочуць патрыёты Беларусі, каб досвед спатрэбіўся ці не, а бараніць Беларусь прыйдзецца. Тысячы ўкраінцаў загінулі толькі таму, што не былі падрыхтаваныя.

Мінскія пагадненні не выконваюцца, вайна працягваецца, форма яе толькі іншая.

Канфлікт на Данбасе не вычарпаны і прагнозы самыя розныя.

Інфармацыйны сэнс нашай прысутнасці толькі пачынае даваць вынікі.

Упершыню паўстала арганізаваная беларуская адзінка — тактычная група «Беларусь», маем досвед і перакazваем тым, хто далучаецца. Вайна ва Украіне пазбавіла нас ілюзій.

Мы не хочам, каб Беларусь паўтарала памылкі Украіны.

Вяртацца ў гета ці турму няма сэнсу.

Ведаем, як бараніць Беларусь, — гэта галоўнае».




**18-гадовы ўкраінскі салдат загінуў у баі з сепаратыстамі пад Данецкам. Алег Габарак з 93-й брыгады загінуў пад Данецкам 11 снежня. Габарак у свой час дадаў сабе паўтара года, каб трапіць у армію добраахвотнікам. У апошнія дні колькасць абстрэлаў украінскіх войскаў значна вырасла.**

# Мінчучка ўцякала ад кантралёраў з тралейбуса праз фортку





Гучная гісторыя пра **канфлікт** у Мінску **кантралёраў і пасажыркі** застаецца ў цэнтры ўвагі беларускіх і замежных СМІ.

32-гадовую безбілетную пасажырку кантралёрка заблакавала ў салоне тралейбуса на канцавым прыпынку і чакала міліцыю. Аднак жанчына вылезла з салона праз фортку, толькі торбачку ўхапіла кантралёрка. Усё гэта здымала на відэа і каментавала кіроўца тралейбуса.

За некалькі дзён відэаролік набраў на *YouTube* больш за 550 тысяч праглядаў. Пра выпадак паведаміў нават брытанскі таблоід *Daily Mail*.

Было вядома, што ўдзельнікі канфлікту напісалі ў міліцыі адно на аднаго сустрэчныя заявы. Праводзіцца праверка. Увечары 11 снежня на тэлеканале СТБ з'явіўся сюжэт пра гэтае здарэнне, у ім былі названыя імя і прозвішча пасажыркі: Ксенія Маргунская. Высветлілася, што яна інструктар па фітнэсе, выкладчык і ў той дзень спазнялася на працу. А праз акно вырашыла выйсці «з прынцыпу».

«Я прапаноўвала пашпарт, прапаноўвала афіцыйна аформіць мне штраф», — кажа Маргунская.

«Калі я стала прасоўвацца да выхаду, кантралёр стала мяне штурхаць, у выніку чаго я ўпала на сядзенне. Я атрымала два ўдары ў плечавы сустаў. Калі я спрабавала адкрыць фортку, кантралёр стала біць мяне па руках, не даючы мне гэта зрабіць», — сцвярджае пасажырка ў інтэрв'ю тэлеканалу.

Прэс-афіцэр Партызанскага РУУС Наталля Ганусевіч паведаміла, што матэрыялы праверкі знаходзяцца ва ўчастковага міліцыянера. Усім траім удзельнікам інцыдэнту дадуць афіцыйны адказ да 16 снежня.

**Сямён Цыбульскі**

# Нямецкія навукоўцы атрымалі ўстойлівую плазму

Гэта можа прывесці да **тэрмаядзернай рэвалюцыі**.



Калі вынікі даследчыкаў Інстытута плазменнай фізікі Макса Планка ўдасца паўтарыць, чалавецтва атрымае практычна невычэрпную крыніцу чыстай энергіі ядзернага сінтэзу.

10 снежня нямецкія навукоўцы зрабілі велізарны крок на шляху да дасягнення чыстай і практычна невычэрпнай энергіі ядзернага сінтэзу, паведамляе выданне *Science Alert*.

Нямецкія навукоўцы дабіліся ўстойлівай тэрмаядзернай рэакцыі з перавышэннем вылучанай энергіі над выдаткаванай з дапамогай прылады, якая мае назву стэларатар. Навукоўцы казалі аб велізарным патэнцыяле стэларатараў на працягу дзесяцігоддзяў, але ўпершыню змаглі дамагчыся кантролю над плазмай.

Ядзерны сінтэз адбываецца падчас злучэння атамаў пры звышвысокіх тэмпературах і тоіць у сабе велізарны патэнцыял, які дазваляе выпрацоўваць практычна неабмежаваную колькасць энергіі. Аналагічныя працэсы адбываюцца на Сонцы апошнія 4,5 млрд гадоў, забяспечваючы энергіяй у тым ліку і Зямлю.

Калі нямецкія навукоўцы змогуць паўтарыць вынікі на іншых установах, чалавецтва чакае энергетычная рэвалюцыя, а патрэба ў выкапнях як крыніцы энергіі (вуглі, газе, нафце і т. д.) можа цалкам адпасці. У афіцыйным *Twitter* інстытута навукоўцы віншуюць калегаў з дасягнутым вынікам.

**Паводле sciencealert.com**

**Паралелі**

# Калі мільёны апяваюць сонца, сумленны той, хто працуе пры месяцы

Піша **Зміцер Панкавец**.



Апошнім часам сусветныя СМІ часта пішуць пра запавольванне эканомікі Кітая: сканчаецца эканамічны цуд. Краіна дасягнула своеасаблівай планкі, пасля якой яна будзе развівацца тымі ж тэмпамі, як і іншыя. Так ужо было калісьці з Японіяй.

Былы дарадца прэзідэнта Ткачоў і цяперашні дарадца Руды абодва заклікаюць капіяваць кітайскі досвед. Але ці разумеюць яны, у чым быў той досвед?

Іншыя прадракаюць, што кітайцы захопяць свет. А ў фэйсбуку, здаецца, не самыя дурныя людзі тыражуюць навіны, як кітайцы ядуць немаўлят — гэтаксама пісалі пра габрэяў 100 гадоў таму чарнасоценскія газеты. Як мала мы ведаем пра суседа нашага суседа — велічэзны Кітай.

Няма лепшага спосабу зразумець Расію, як пачытаць Гогаля, Дастаеўскага і Шолахава. Зразумець Кітай дапамагаюць кнігі нобелеўскага лаўрэата 2012 года Мо Яня. Некаторыя з іх перакладзеныя на рускую, выйшла першая кніга на ўкраінскай, толькі беларусы тут адстаюць.

Мо Янь — гэта не дысідэнт. Ён цалкам камфортна сябе адчувае на афіцыйнай пасадзе намесніка старшыні кітайскага Саюза пісьменнікаў. А перад тым, як аддацца літаратурнай творчасці, шмат гадоў быў ідэолагам у Народна-вызвольнай арміі Кітая.

Калі ж чытаеш кнігі Мо Яня, то разумееш, што творчай свабоды ў сённяшнім Кітаі непараўнальна больш, чым у Беларусі. Умоўны Чаргінец не даў бы друкаваць раманы Мо Яня, абвінаваціў бы пісьменніка ў антыдзяржаўнай пазіцыі. А вось у Кітаі гэта публікуецца.

Мо Яня часта абвінавачваюць, што яго проза занадта грубая, вясковая. У ёй шмат натуралізму і мала рамантыкі. Мо Янь — гэта не саладжавы японец Харукі Муракамі, які дзеля камерцыйнага поспеху ўсё ж прыдумаў зусім не адпаведны хэпі-энд у трылогіі 1Q84. Проза Мо Яня жорсткая, у канцы ягоных кніг усе ці амаль усе паміраюць. Амаль як у Васіля Быкава.

Раман «Стаміўся нараджацца і паміраць» і пачынаецца са смерці. 1949 год. Памешчыка Сімэнь Нао расстрэльваюць без суда і следства. За пару месяцаў да гэтага была абвешчана Кітайская Народная Рэспубліка, над Кітаем узышло сонца «Вялікага кормчага» Мао Цзэдуна. Новая ўлада ліквідуе непажаданых элементаў, якія не ўпісваюцца ў сацыялістычную будучыню краіны.

Сімэнь Нао гіне, але віны сваёй не прызнае. Уладар пекла Янь-Ло, бачачы непахіснасць натуры памешчыка, адпраўляе яго назад на зямлю. Вось толькі ўжо не чалавекам, а аслом. Пазней Сімэнь Нао будзе перараджацца валом, кныром, сабакам і малпай. Кола пакутлівых перараджэнняў.

У такой вось фантастычнай форме Мо Янь тчэ грандыёзнае палатно гісторыі Кітая XX стагоддзя. Дзеянні адбываюцца ў родным калгасе Мо Яня. Вось скажы сёння каму з беларускіх пісьменнікаў, што трэба пісаць пра калгасы, то падымуць на смех. Несучасна, нікому нецікава. А Мо Янь піша.

Галодная першая пяцігодка, псеўдалібералізацыя палітыкі «Няхай расцвітаюць сто кветак», дурны «Вялікі скачок», дзікая эпоха «Культурнай рэвалюцыі». Наогул, лёгка не было нікому. Ні людзям, ні жывёле.

Проза Мо Яня — гэта знішчальная крытыка камуністычнага Кітая дарынкавага перыяду.

Мо Янь піша з непрыхаванай любоўю да тых, каго прынята было называць «ворагамі народа». Былых гаміньданаўцаў, паноў, сялян-аднаасобнікаў. Паказвае іх людскасць, але перадусім бясконцую працавітасць. І адначасова паказвае пустату, маральную дэградацыю, бесталковасць тых людзей, што прыйшлі да ўлады пры Мао.

Сінятвары селянін Лань Лянь адмаўляецца ўступаць у калгас. Нягледзячы ні на што, ён працягвае апрацоўваць свой невялікі надзел. Пад ціскам улады ад яго адварочваецца сям'я, з яго здзекуюцца хунвейбіны на чале з прыёмным сынам, у яго адбіраюць асла і вала. Яму не даюць выходзіць на поле днём. Тады ён працуе пры святле месяца.

«У эпоху, калі мільёны людзей апявалі сонца, знайшоўся чалавек, які адчуваў такія глыбокія пачуцці да месяца», — так паэтычна апісваецца Лань Лянь.

У паслямоўі Мо Янь прызнаецца, што напісаў гэтую кнігу за 43 дні, але яна выспявала ў ім амаль 40 гадоў. І прататып такога аднаасобніка сапраўды існаваў.

Вось як намеснік старшыні афіцыйнага Саюза пісьменнікаў Кітая Мо Янь апісвае ў рамане дзень смерці Мао Цзэдуна: у гэты дзень «больш за тысячу галоў дохлых свіней са свінафермы «Абрыкосавы сад» плылі шэраг за шэрагам: яны гнілі, набрыньвалі, лопаліся, іх жэрлі лічынкі, раздзіралі на кавалкі рыбы, а яны плылі і плылі, пакуль нарэшце не зніклі ў бязмежных прасторах Усходняга мора, дзе іх праглынулі, дзе яны растварыліся, ператварыліся ў самыя розныя часціцы вялікага і спрадвечнага кругазвароту матэрыі».

Эпоха рэформаў і адкрытасці прыносіць Кітаю дабрабыт. У ворагаў народа іх былыя каты просяць прабачэння. І ўсе згаджаюцца, што Лань Лянь заўсёды меў рацыю, а яны — не. Былыя хунвейбіны становяцца самымі прашаранымі бізнэсменамі, якія праўдай і падманам зарабляюць мільёны юаняў прыбытку. І пляваць яны ўжо хацелі на былыя ідэалы.

«Тое, што мы лічылі святым, над чым дрыжалі, сёння падобна да купкі сабачага г...».

З раманаў Мо Яня вынікае, што поспех Кітая апошніх 35 гадоў грунтуецца на абдуманым адмаўленні памылак папярэдняга перыяду. Насуперак таму, што мяркуе Ткачоў, Кітай расквітнеў, бо зрабіў стаўку на прыватную ўласнасць, прыватнага гаспадара.

Толькі састарэлы паўвар'ят, «апошні воін рэвалюцыі», Хуан Таюэ спрабуе вылечыць грамадства ад віруса капіталізму. Але ён ужо не здольны павярнуць працэсы назад.

# Дзеля капейкі

Мінчукі бралі штурмам новы гандлёвы цэнтр «Момо».



Ахова ледзь давала рады людской плыні, распавядаюць відавочцы.

Тысячы мінчукоў прыйшлі 11 снежня на адкрыццё новага гандлёвага цэнтра «Момо» на Партызанскім праспекце недалёка ад станцыі метро «Магілёўская».

Самыя вялікія натоўпы сабраў гіпермаркет «Гіпа» — у гандлёвую залу служба аховы прапускала невялікімі групамі раз на пяць хвілін, але людзі, якія прыйшлі ў «Момо», некалькі разоў прарывалі жывы ланцуг. Не меншая колькасць купцоў сабралася на рэцэпцыі, дзе афармляліся зніжкавыя карты.

Пакуль адкрылася першая чарга гандлёвага цэнтра. Плошчы яшчэ запоўненыя толькі на 40%.

**Інф. БелаПАН**

## Забаўна

### 10 прыкметаў таго, што вы выхоўваліся ў Беларусі



Піша **Іван Шыла**.

Пазнаяце сябе ці знаёмых? Значыць, вы частка беларускага свету.

**1.** Вы плаціце за пломбу пятую частку месячнага заробку, хоць у краіне бясплатная медыцына, і лічыце гэта нармальным.

**2.** Вы думаеце, што ведаеце беларускую мову, бо вучылі яе ў школе, але, калі пачынаеце размаўляць, вам робіцца сорамна.

**3.** Вы лічыце сябе рэлігійным чалавекам, ходзіце ў царкву раз на год, чытаеце гараскопы і святкуеце Купалле.

**4.** Вы ведаеце, што такое падатак на дармаедаў.

**5.** Вы не заўважаеце дошак гонару, хоць іх колькасць на квадратны кіламетр самая вялікая ў Еўропе.

**6.** Стабільнасць — гэта калі заробак, які меў вырасці да $1000, упаў да 300.

**7.** Вы ставіцеся да Лукашэнкі як да дажджу: супраць дажджу няма сэнсу змагацца. Можна з'ехаць у іншую краіну, дзе яго менш, можна набыць парасон, проста прызвычаіцца і нават палюбіць. Альбо казаць, што дождж — гэта лепш, чым завіруха. Вы ведаеце дату нараджэння вашага прэзідэнта да таго, як ён яе змяніў, і пасля таго. Вы штогод глядзіце парады, якія прымае хлопчык у генеральскай форме.

**8.** Для вас слова «Бабруйск» нясмешнае, а «Белоруссия» — няправільнае.

**9.** Вы слухаеце чыноўнікаў і робіце наадварот: калі па тэлебачанні кажуць, што дэвальвацыі не будзе, вы спяшаецеся ў абменнік.

**10.** Вы лічыце, што жывяце ў маленькай і мірнай краіне, хоць ваша краіна па плошчы роўная Брытаніі і застаецца сярод лідараў па колькасці забойстваў на бытавой глебе. Абы не было вайны...

**Чытайце: Svaboda.org**

# «Дзе гэтая гніда?»

У новай рэкламе гульні «Свет танкаў» бацька замуроўвае сына ў шафе, каб гуляцца ў камп'ютар.

У інтэрнэце была змешчаная новая рэклама гульні *World of Tanks*, у якой Вадзім Галыгін гуляе ў хованкі са сваім сынам і ў выніку замуроўвае малога ў шафе, каб той не замінаў бацьку гуляцца ў «танкі».

«Валера, Валера, нас*ы яму ў дула!» — крычыць «бацька», гуляючы ў «танкі», пакуль ягоны сын глядзіць на гэта праз шчыліны ў шафе.

Калі гэты ролік пераставілі буйныя інфармацыйныя сайты, узнялося абурэнне. У выніку яго адусюль выдалілі, а кампанія *Wargaming* выбачылася за «тупую» рэкламу.

**АЯ**

# Самы вялікі эсмінец ВМС ЗША выйшаў у мора

Эскадронны мінаносец тыпу «Замволт», самы вялікі эсмінец, створаны для ВМС ЗША, упершыню выйшаў у адкрытае мора для хадавых выпрабаванняў.

Верф *Bath Iron Works*, на якой быў пабудаваны эсмінец, збіраецца перадаць яго ВМС у 2016 годзе — гэтай зімой пройдзе серыя выпрабаванняў і дапрацовак. Кошт будаўніцтва карабля складзе не менш за 4,4 мільярда даляраў.

Даўжыня «Замволта» складае 183 метры, водазмяшчэнне — амаль 15 тысяч тон.





## Тэлевядучая Вікторыя Грыб: Абавязуюся сфатаграфавацца топлес…

Вядучая хакейнай перадачы «Авертайм» Вікторыя Грыб у інтэрв'ю Сяргею Шчурко для часопіса «Вялікі футбол» паабяцала распранууца і задумалася:

«Я, Вікторыя Грыб, абавязваюся сфатаграфавацца топлес, калі наша зборная стане чэмпіёнам свету па... Так, трэба падумаць і выбраць: хакей або футбол?

Варыянты раўнацэнныя, але ў хакея чыста тэарэтычна шанцаў больш: там не настолькі шалёная канкурэнцыя.

Тады я наогул нічым не рызыкую. Нават сумна... І ўсё ж планку, пагадзіся, паніжаць нельга. Што гэта за інфармацыя будзе на навінавых парталах замежных агенцтваў: «Беларуская тэлевядучая заявіла, што распранецца, калі футбольная зборная яе краіны патрапіць у плэй-оф групавога турніру з трэцяга месца па дадатковых паказчыках»? Сорам жа. Што падумае пра нас Еўропа».

## Жарт



**Гумар дактароў: навагодняе ўпрыгожанне бальніцы.**

## Кіно

# Масква закаханая

Пра каханне
**Жанр:** камедыя
**Рэжысёр:** Ганна Мелікян
**У ролях:** Рэната Літвінава, Міхаіл Яфрэмаў, Марыя Шалаева, Васіль Ракша, Юлія Снігір, Уладзімір Машкоў, Аляксандра Борціч
Расія, 115 хв.
**Адзнака:** 6

Некалькі самых розных персанажаў і гісторый пераплятаюцца разам. Усе яны пра каханне: маладая пара, якая жыве ў вобразах японскіх анімэ-герояў і ніколі не бачылі адно аднаго без грыму; сакратарка, якая атрымала непрыстойную прапанову ад свайго боса; японка, якая прыехала ў Маскву ў пошуках рускага мужчыны; мастак-графіціст у пошуках прыгажосці; былая жонка, нанятая сваім мужам для незвычайнага задання.

Новая стужка расійскай рэжысёркі армяна-азербайджанскага паходжання, уладальніцы «Залатога мядзведзя» за фільм «Русалка» (2007) Ганны Мелікян узяла галоўны прыз на «Кінатаўры»-2015. Першапачаткова рэжысёрка зняла дзве кароткаметражкі на тэму кахання, якія хутка набралі шмат пазітыўных водгукаў у інтэрнэце. Вынікам працы стаў поўнаметражны твор па ўласным сцэнары на тую ж тэму.

Фільм сабраў вядомых акцёраў сучаснага расійскага кіно. Рэната Літвінава выканала ролю вядомага псіхолага, якая чытае лекцыю пра каханне. Яе скразная сцэна стварае агульную канву для кожнай з невялікіх, вясёлых і драматычных гісторый. У іх бяруць удзел закаханая дзяўчына-міліцыянт — Раўшана Куркова, арыштаваныя прыхільнікі анімэ — Марыя Шалаева і Васіль Ракша, японская турыстка, закаханая ў Расію, — Міяка Шымамура, знерваваны топ-менеджар — Уладзімір Машкоў, вулічны мастак, закаханы адразу ў двух дзяўчат, — Яўген Цыганоў. У стужцы зняліся і сапраўдныя касплееры, а японская актрыса спецыяльна для здымак навучылася іграць на гітары.




Фонам для гісторый выступае мітуслівая Масква. Часткай гарадской атмасферы выступаюць песні музыкаў *Noize MC* і Ёлкі. Інтэрактыўныя элементы сучаснага жыцця знаходзяць у Мелікян цікавае ўвасабленне: героі актыўна карыстаюцца сацыяльнымі сеткамі, смайлы і інстаграмныя фота імгненна адлюстроўваюцца на экране.

Стужка ўтрымлівае эратычныя сцэны і мае ўзроставае абмежаванне 18+.

**Настасся Уласава**

# Мясакамбінат, з якога адна дарога — у турму

**Новую крымінальную справу распачаў Следчы камітэт.**

Паводле чутак, арыштаваныя дырэктар Гомельскага мясакамбіната Рычард Стэфановіч, некалькі яго падначаленых і першы намеснік старшыні аблвыканкама Аляксандр Максіменка.

Кажуць, затрыманні правялі 2 снежня супрацоўнікі КДБ. Але ў спецслужбе не пацвярджаюць і не абвяргаюць інфармацыі, адказваючы, што звестак для пашырэння ў прэсе пакуль няма.

У той жа час на мясакамбінаце неафіцыйна пацвярджаюць арышт дырэктара, ужо былога. З панядзелка Рычард Стэфановіч не працуе на прадпрыемстве, а на яго месца прызначаны Мікалай Буйневіч, які быў першым намеснікам гендырэктара па камерцыйных пытаннях гомельскай кандытарскай фабрыкі «Спартак».

Што стала падставай для арыштаў — не агучваецца. Але паводле неафіцыйнай інфармацыі, чыноўнікаў затрымалі з-за махінацый з мясам: пратэрміноўку мясакамбіната з крамаў вярталі на прадпрыемства, перакручвалі на фарш і зноў пастаўлялі на прылаўкі.

Намеснік старшыні аблвыканкама, 42-гадовы Аляксандр Максіменка, курыраваў арганізацыі мяса-малочнай прамысловасці. Родам ён з Гомельскага раёна, з вёскі Старыя Дзятлавічы. Скончыў Гомельскі політэхнічны інстытут і Акадэмію кіравання пры прэзідэнце. З 1995 па 2000 гады працаваў ва ўпраўленні сельскай гаспадаркі Ельскага райвыканкама. Пасля яго ўзялі ў КРУ Гомельскага аблвыканкама. З 2000 па 2006 гады кіраваў КСУ-Пам «Млынок» Ельскага раёна. З 2007 па 2011 быў старшынёй Акцябрскага райвыканкама. З красавіка 2011 узначальваў Дэпартамент фінансавага маніторынгу КДК.

Цікава, што гэта не першая крымінальная гісторыя, звязаная з Гомельскім мясакамбінатам. У 2004 годзе пад следства трапілі 29 чалавек. Тады на мясакамбінаце арганізавалі «дабрачынную сталовую» для сваіх, дзе без аплаты кармілі і «патрэбных людзей».

Таксама добрае мяса пад выглядам корму для сабак прывозілі ў фірмовы магазін. І адпускалі па спісе сваім. Свежую выразку можна было купіць па цане костак для сабак.

Пасля шматгадовага следства тагачаснага дырэктара Валерыя Дземідзенку асудзілі да сямі гадоў калоніі з канфіскацыяй маёмасці. Начальнікі цэхаў атрымалі па тры-чатыры гады пазбаўлення волі з канфіскацыяй. Іншыя работнікі — вагаўшчык, кладаўшчыкі, грузчыкі, майстры — асуджаныя на розныя тэрміны абмежавання волі. «Уцягнутыя ў працэс» міліцыянты былі пакараныя пазбаўленнем волі на тэрміны ад трох з паловай да чатырох гадоў, а таксама штрафамі на 10 мільёнаў рублёў кожны.

Падобны лёс напаткаў і папярэдніка Аляксандра Максіменкі — Віктара Банчука. Паўтара года таму яго арыштавалі разам з яшчэ адным намеснікам старшыні аблвыканкама — Віктарам Трызно. Цяпер іх разам з расійскімі камерсантамі судзяць за нанясенне маёмаснай шкоды, падбухторванне да здзяйснення карупцыйных злачынстваў, перавышэнне паўнамоцтваў і злоўжыванне ўладай. Па версіі абвінавачвання, мясакамбінат адпускаў расійскім фірмам прадукцыю без перадаплаты пры садзейнічанні чыноўнікаў аблвыканкама.

А вось з тым, што ставіцца ў віну Стэфановічу і Максіменку, калі затрымалі сапраўды іх, яснасці мала. У аблвыканкаме пакуль кажуць, што, па іх звестках, Аляксандр Максіменка з'ехаў у камандзіроўку. А на прадпрыемстве цяпер праходзіць маштабны пераўлік.

**Улад Швядовіч**



Гомельскі мясакамбінат.


Рычард Стэфановіч.


Аляксандр Максіменка.

## Маці выратавала сына цаной жыцця

У чацвер увечары ў Гомелі ў кватэры 78-гадовай пенсіянеркі, якая жыла разам з сынам, адбылася п'яная сварка. Нецвярозы 53-гадовы госць сына напаў на яго, і той выбег з кватэры. У перадпакоі бабуля заступіла дарогу агрэсіўнаму госцю. Той кінуўся на яе і больш за 20 разоў ударыў нажом. Ад раненняў жанчына памерла на месцы. Забойца спрабаваў уцячы, але трапіўся міліцыі з акрываўленым нажом недалёка ад дома. За забойства з асаблівай жорсткасцю распачата крымінальная справа, распавяла прадстаўніца Следчага камітэта па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава.

**УШ**

## Жодзінскія падлеткі зараблялі на педафілах

Супрацоўнікамі аддзела наркакантролю і супрацьдзеяння гандлю людзьмі Жодзінскага ГАУС і Смалявіцкага РАУС затрымана група жодзінскіх непаўналетніх, у якую ўваходзілі пяць хлопцаў і дзяўчына.

Як паведамляецца на сайце УУС Мінскага аблвыканкама са спасылкай на выданне «Жодзінскія навіны», пад выглядам непаўналетняй дзяўчыны ў сацсетках яны спісваліся з мужчынамі і прапаноўвалі інтым. Каштавалі такія паслугі 150 даляраў. Калі прыходзіла паведамленне ў адказ, задавалі пытанне: «А ці не засмучае вас узрост?» Тым чынам падлеткі спрабавалі вылічыць педафілаў.

Калі мужчына прыязджаў у Жодзіна і сустракаўся з дзяўчынай, у пэўны момант яе напарнікі ўрываліся ў масках і ўжывалі фізічную сілу, а затым патрабавалі грашовыя сродкі, інакш пагражалі распаўсюдзіць інфармацыю пра схільнасці «кліента».

Цяпер зарэгістраваныя тры матэрыялы праверак у дачыненні да гэтай групы маладых людзей. Паводле слоў першага намесніка начальніка міліцыі, начальніка крымінальнай міліцыі Жодзінскага ГАУС Віталя Пручкоўскага, летась у дачыненні да членаў руху «Стоп — педафіл» былі распачатыя крымінальныя справы за рабаванне, хуліганства і вымаганне, адказнасць па якіх наступае з 14-гадовага ўзросту, а тэрмін пакарання па гэтых артыкулах — да 15 гадоў пазбаўлення волі.

**УШ**

## Стафардшырскі тэр'ер пагрыз дзвюх дзяўчат

У Гомелі сабака пакусаў дзвюх п'яных дзяўчын. Інцыдэнт адбыўся на мінулых выхадных у кватэры аднаго з дамоў, размешчаных у Цэнтральным раёне горада.

Як паведаміў начальнік прэсслужбы УУС Гомельскага аблвыканкама Андрэй Мазепін, 22-гадовая дзяўчына сустрэлася на вуліцы са знаёмым, які гуляў са сваім стафардшырскім тэр'ерам. Прыяцелька папрасіла хлопца даць ёй гадаванца на час, каб пагуляць. Малады чалавек пагадзіўся, і дзяўчына прывяла сабаку, які быў у намордніку, да сябе дадому.

Увечары да гамяльчанкі зайшла 21-гадовая сяброўка, дзяўчаты выпілі. Каля гадзіны ночы сяброўкі знялі з сабакі наморднік і гулялі з ім, але ў нейкі момант кінуўся на адну з іх. Другая ў гэты час спрабавала адцягнуць сабаку ад сяброўкі, і тады тэр'ер напаў на яе.

Гаспадыня кватэры схавалася на балконе і выклікала міліцыю. Міліцыя ўзяла з сабой работнікаў МНС і службы адлову бадзяжных жывёл. Ратавальнікі ўзламалі дзверы ў кватэру і злавілі сабаку спецыяльным сачком. Сабаку, якому 2,5 года, адвезлі ў гадавальнік, дзе за ім дзесяць дзён будуць назіраць на прадмет выяўлення прыкмет шаленства. Дарэчы, стафардшырскі тэр'ер занесены ў Беларусі ў спіс патэнцыйна небяспечных парод сабак.

У гаспадыні кватэры пакусаныя рукі, а яе сяброўку паклалі ў рэанімацыю з ранамі рук і ног.



Сабаку, хутчэй за ўсё, усыпяць, бо ён напаў на чалавека. Да таго ж гаспадар тэр'ера можа атрымаць штраф да 30 базавых велічынь за тое, што парушыў правілы ўтрымання хатняй жывёлы.

**УШ**

## Сцісла

### Платнае навучанне

У Брэсцкім раёне ўвечары 11 снежня спынілі аўто, за стырном якога быў 13-гадовы падлетак. Побач сядзела яго маці, якая вучыла сына кіраваць машынай. У выніку жанчыне выпісалі штраф.

### Няпрошанага госця затрымалі

У Мар'інай Горцы затрымалі грамадзяніна Расіі, які быў у міждзяржаўным і міжнародным вышуку. Паведамляецца, што ў складзе банды ён займаўся бандытызмам, выкраданнем людзей, вымагальніцтвам, разбоямі. У Беларусі ён жыў за кошт жанчыны, да якой увайшоў у давер.

### Напрацавалі на турэмны тэрмін

У Мінску электрамантажнік два гады прагульваў працу. Але ж па дамоўленасці з прарабам заробак атрымліваў. Частку грошай ён аддаваў таму ж прарабу, таксама аддаваў яму частку свайго «левага» заробку. У выніку прарабу пагражае да 12 гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

**УШ**

# Муж для ўсіх

**Грузіна, які абвёў вакол пальца чатырох беларусак, пасадзілі на 7 гадоў.**



11 снежня гомельскі суд вырашыў лёс 49-гадовага Бачуку Цібуа, таксама вядомага як Ніко. Мужчына абяцаў жаніцца, уціраўся ў давер, а сам выцягваў з жанчын грошы і золата. Яго ахвярамі сталі 4 жанчыны, на якіх Цібуа агулам «зарабіў» 15 тысяч даляраў.

Першай ахвярай стала 40-гадовая медсястра Ірына, якой у «Аднакласніках» прыйшло паведамленне ад незнаёмага мужчыны. Завязалася перапіска, ён сказаў, што яго завуць Ніко, нібыта ён займаецца бізнэсам і жыве ў гомельскім гатэлі, але там яму не падабаецца. І праз пару дзён Ніко папрасіў жанчыну знайсці яму часовае жыллё. Адзінокая Ірына, якая ні разу не бачыла суразмоўцу, пагадзілася і папрасіла сваю сваячку прытуліць мужчыну, пры гэтым нават паручылася за яго, «таму што ён выклікаў давер». Але хутка новы знаёмы стаў прасіць знайсці для яго асобную кватэру і пазычыць «колькі ёсць» грошай на яе арэнду. Спачатку медсястра зняла з рахунку свае зберажэнні — 300 даляраў. Потым прынесла мужчыну яшчэ 200 даляраў, якія адкладала на вучобу дачкі.

Ірына працягвала і далей матэрыяльна дапамагаць «бізнэсмену». А той паралельна завязаў адносіны яшчэ з трыма жанчынамі.

Лабарантка Тацціяна неяк зайшла ў госці да сваёй знаёмай, у якой і жыў грузін. Пазнаёміліся, неўзабаве паміж Тацціянай і Ніко завязаліся адносіны. Мужчына распавёў аб сваім бізнэсе і аб тым, што хацеў бы застацца жыць у Беларусі, дзе «ціха і спакойна». Таму папрасіў і Тацціяну знайсці яму хатку ў Гомелі, яны нават разам хадзілі глядзець дом, назваўшыся мужам і жонкай.

Але неўзабаве яму нібыта патэлефанавалі кампаньёны і сказалі, што зламалася фура з прадукцыяй, тэрмінова патрэбныя грошы на рамонт — дзесяць з паловай тысяч даляраў. Калі машыну адрамантуюць і прададуць тавар, паабяцаў Ніко, ён абавязкова ўсё верне з працэнтамі. Тацціяна папрасіла грошы ў свайго сына, які працуе кіроўцам тралейбуса.

— Сын спытаў, ці ўпэўнена я ў гэтым чалавеку. Ён сумняваўся, але я ўгаварыла. Гэтыя грошы сын з сям'ёй збіраў на кватэру. Калі ён іх страціў, якраз падышла чарга, і трэ' было плаціць унёсак, — плакала ў судзе Тацціяна.

Яна аддала грузінскаму махляру не толькі 10,5 тысячы даляраў сына, але яшчэ і больш за тры тысячы даляраў, якія ў яе былі на захоўванні, залаты ланцужок, кулоны.

Дзве іншыя пацярпелыя жанчыны абышліся яшчэ лёгкімі стратамі — яны аддалі альфонсу 10 мільёнаў рублёў і 400 еўра. А калі Ніко знік і перастаў адказваць на званкі, жанчыны панеслі заявы ў міліцыю.

Сам жа Цібуа сваю віну цалкам адмаўляў на працягу ўсяго суда, сцвярджаючы, што нічога не браў ад жанчын, тым больш што ніякіх распісак яны ў яго не патрабавалі. На прысуд адрэагаваў спакойна.

— Я хацеў бы сказаць, што нічога не браў: ні золата, ні грошай. Я не вінаваты. Калі суд мяне зразумее як трэба, я скажу як бізнэсовец: мы дапамагалі дзіцячым дамам, будавалі цэрквы. Гэтыя грошы, якія я не браў, я магу даць гэтым жанчынам як падарунак на Новы год, хоць я і не вінаваты. Калі б мне далі такую магчымасць, я б падпісаў любыя паперы, каб зрабіць гэтым жанчынам падарунак. Адпусціце мяне, — прасіў Цібуа ў сваім апошнім слове.

Цікава, што ва Украіне яшчэ ў мінулым годзе стварылі суполку ў «Аднакласніках» па пошуку Ніко. Як сцвярджаюць удзельнікі групы, у Адэсе, Жытоміры і іншых украінскіх гарадах грузін таксама пакінуў след, падмануўшы 17 жанчын, якія страцілі 55 тысяч даляраў, кватэры і золата. Аднак украінскае правасуддзе да Ніко не дабралася. А вось беларусы артыкул на крукі знайшлі.

**Улад Швядовіч**

## Адна бабулька вырашыла праверыць, ці адключыць чалавека палкай…

Мінска пенсіянерка наглядзелася серыялаў і вырашыла праверыць, ці можна «вырубіць» чалавека адным ударам, як у кіно.

77-гадовая пенсіянерка надзела парык, узяла кіёк і стаілася ў куце лесвічнай пляцоўкі на першым паверсе свайго пад'езда. Пад руку ёй папалася паштарка, якая акурат скончыла разносіць пенсіі.

Бабулька і давай біць яе ззаду палкай па галаве. Паштальёнка паваліліся спачатку ад нечаканасці, але здолела ўзняцца на ногі і ўцячы. Пенсіянерка пачула, што паштарка тэлефануе з мабільнага тэлефона ў міліцыю і пабегла хавацца ў кватэру, але ў дзвярах застаўся заціснуты яе красовак. Прыбегшы дадому, жанчына выкінула ў акно парык, палку і другі красовак.

Так яе і вылічылі.

У РУУС яна прызналася ў сваёй любові да крымінальных серыялаў. Напярэдадні ў адным з іх бабуля ўбачыла, як герой пры дапамозе палкі адным ударам па галаве пазбаўляе прытомнасці чалавека. Пасля гэтага яна вырашыла праверыць, ці зможа і яна зваліць з ног чалавека адным ударам.

У дачыненні да пенсіянеркі распачата крымінальная справа за хуліганства.

**УШ**

## …другая бабця здурэла, пачала хуліганіць

**Гарадзенская пенсіянерка падрапала цвіком два аўтамабілі.**

У Гродне 81-гадовай бабулі пагражае два гады турмы.

Выйшла прагуляцца яна і ўзяла з сабой вялікі цвік. І падрапала ім дзве машыны. Яны стаялі ў розных дварах, не там, дзе яна жыве. Ёй тыя машыны ніяк не перашкаджалі. Відаць, штосьці заела ёй з машынамі.

Цяпер па гэтым факце праводзіцца праверка. Распачата крымінальная справа аб наўмысным пашкоджанні маёмасці. Бабуля кажа, што яна сама ў разгубленасці і не можа патлумачыць, што падштурхнула яе на такія паводзіны. Зайшло ў галаву ёй нешта, між тым пашкоджанні на машынах пацягнулі на 14 мільёнаў рублёў.

**УШ**

# XII стагоддзе: веліч духоўнага жыцця

## Гісторыя Беларусі. Частка XXXV

Піша **Алег Дзярновіч.**

Цягам XII стагоддзя непазнавальна змяніўся культурны ландшафт Полацкай зямлі. Заўважнай яго рысай сталі мураваныя храмы — мы налічваем іх аж трынаццаць. Самы першы мураваны храм у Полацку — Сафійскі сабор — скончылі будаваць каля 1050-х. Праз паўстагоддзя ўзводзіцца Вялікі храм у Бельчыцкім манастыры пад Полацкам. У цэрквах, якія будаваліся пазней, пачыналі праглядацца адметныя рысы, характэрныя для ўласна полацкай архітэктуры. Так, ускрытыя падчас раскопак храм-пахавальня Ефрасіннеўскага манастыра і царква на Ніжнім замку маюць галерэі з пашырэннямі па кутах храма.

### Архітэктурныя навацыі

Але найбольш адметнай з'яўляецца Спаская царква Ефрасіннеўскага манастыра, якая, на шчасце, захавалася. Яе архітэктар, дойлід Іаан, зламаў візантыйскую храмавую традыцыю. Апошняя прадугледжвала прасторавае пашырэнне, магутныя гарызантальныя лініі. Спаская ж царква заклала новы тып храма, які называюць яшчэ слупападобным. Гэты тып будзе дамінаваць у другой палове XII ст. у дойлідстве Усходняй Еўропы. Расійскі гісторык архітэктуры Павел Рапапорт вобразна пазначыў Спаскую царкву як узор «рускай готыкі». Ва ўсёй кампазіцыі храма падкрэсленае вертыкальнае памкненне, нарастанне вастрыні формаў ад нізу да верху.

Абставіны будаўніцтва храма мы ведаем паводле «Жыція» Ефрасінні Полацкай, складзенага ў самым канцы XII ст. Немагчыма апісваць культурныя працэсы ў Полацкай зямлі XII ст., абмінуўшы ўвагай гэтую легендарную постаць.

### Выбар Ефрасінні

Ефрасіння (каля 1101—1167) — гэта манаскае імя прадстаўніцы полацкай княскай дынастыі. Яе ж свецкае імя было Прадслава, а хрысціянскае — Еўпраксія (Параскева). Прадслава была старэйшай і доўгачаканай дачкой у сям'і князя Святаслава-Георгія, малодшага сына легендарнага Усяслава Полацкага. Князь Святаслаў Усяславіч (1050-я — пасля 1130) быў наймалодшым сярод сваіх братоў, таму не мог прэтэндаваць на полацкі стол. Яму быў вылучаны Віцебск, дзе і магла нарадзіцца Прадслава. Паводле ўскосных звестак, маткаю Прадславы была Сафія, дачка Уладзіміра Манамаха. У сям'і былі яшчэ дзеці — малодшыя сястра Гардзіслава, браты Давыд і Васілька.

Паводле «Жыція», у 12-гадовым веку Прадславу хацелі выдаць замуж, але яна адмовілася і таемна прыняла пострыг у Полацкім манастыры. Верагодна, гэта адбылося ў 1116 г.

Як сведчыць «Жыціе», бацька Ефрасінні крытычна ацаніў яе выбар, «смутак жа па ёй ахапіў увесь дом яго». Выбар Ефрасінні ставіць пытанне пра феномен рэлігійнасці ў Полацкай зямлі на пачатку XII ст. Археалагічныя артэфакты сведчаць, што ў жыцці гарадскога насельніцтва яшчэ існавалі моцнымі язычніцкія рэмінісцэнцыі. Але сярод элітных пластоў тагачаснага грамадства хрысціянства ўжо мела трывалае апірышча.

Перасяліўшыся ў мураваную келлю Сафійскага сабора, Ефрасіння занялася перапісваннем кніг і «прыбытак ад продажу іх аддавала тым, хто быў у нястачы». Гэта важная фраза з «Жыція», бо сведчыць пра ўжо сфармаванае кола чытачоў у Полацку XII ст. Магчыма, перапіска кніг на пергаміне, што ў той час было нялёгкай фізічнай працай, стала адным са схімных зарокаў (абетаў) маладой манахіні.



### Містыка і прававыя акты

Гэты перыяд адзначаны і містычнымі віданнямі (віддзеннямі) Ефрасінні, падчас якіх яна пабачыла месца будучай Спаскай царквы. Тры разы да князёўны-інакіні з'яўляўся анёл і адводзіў яе туды, «дзе была цэркаўка Святога Спаса, мятохія Святой Сафіі, што людзі завуць Сяльцом». Вынікае, што за дзве вярсты ад тагачаснага Полацка, на мятохіі — манастарскай зямлі, знаходзілася драўляная Спаская царква. Анёл сцвярджаў: «Ефрасіння! Тут табе належыць быць!» Гэты ж анёл, сведчыць «Жыціе», з'явіўся і полацкаму епіскапу Іллі, у выніку чаго ён склікаў полацкага князя Барыса, бацьку Ефрасінні князя Георгія, іншых пачэсных мужоў і абвясціў: «Вось, аддаю Ефрасінні месца Святога Спаса пры вас, каб пасля маёй смерці ніхто не судзіўся за гэтае маё наданне». Так функцыянавала права ў грамадстве з абмежаванай пісьмовай традыцыяй — здзелкі і наданні яшчэ не заносілі ў актавыя дакументы, а абвяшчалі пры сведках.

У выніку гэтых містычных віданняў і прававых актаў паўстала мураваная Спаская царква. Яе ўзвялі за трыццаць тыдняў, то бок за адзін будаўнічы сезон. Будаўніцтва прадугледжвала і грунтоўны падрыхтоўчы перыяд: паблізу месца будоўлі за некалькі год закладваліся ямы для гашэння вапны, а непасрэдна перад самім будаўніцтвам палі высцілалі цэглаю-плінфаю для прасушкі, а потым і складалі з яе ж палявыя печы для абпалу.

### Свецкі ўплыў ігуменні

Ефрасіння стала ігуменняй новага полацкага манастыра. Таксама да манаскага чыну яна прыцягнула сваіх сёстраў — родную Гардзіславу і стрыечную Звеніславу Барысаўну, якая пад новым іменем Еўпраксія стала найбліжэйшай памочніцай Ефрасінні. У далейшым Ефрасіння заахвоціла да манастырскага жыцця і пляменніц Вольгу ды Кірыяну.

Змясціўшы ў 1128—1129 у манастыр сваіх крэўных, яна выратавала іх ад высылкі ў Кіеў, а потым і ў Візантыю. Бо, нагадаем, у 1127, пасля маштабнай выправы кааліцыі паўднёварускіх князёў на Полацкую зямлю, Усяславічы былі высланыя ў Канстанцінопаль. Бацька Ефрасінні, князь Святаслаў-Георгій, так і памёр на чужыне.

Ефрасінню ж бараніў ад высылкі сан ігуменні. І многае сведчыць пра тое, што яна мела шырокія паўнамоцтвы не толькі ў рэлігійным, але і палітычным жыцці Полацкай зямлі XII ст.

Менавіта ігуменне Ефрасіння, а не епіскап, накіравала пасольства ў Канстанцінопаль у справе набыцця полацкім Сафійскім саборам абраза Багародзіцы Эфескай. Лічылася, што гэта адзін з трох прыжыццёвых абразоў Божай Маці, якія напісаў евангеліст Лука. Па абраз Ефрасіння даслала да візантыйскага імператара Мануіла І Комніна і патрыярха Лукі Хрысаверга свайго слугу Міхаіла.

Таксама Ефрасіння выдавала ад свайго імя пісьмовыя дакументы, што ва ўмовах XII ст. было сведчаннем важнага грамадскага статусу. Пломбавыя пячаткі князёўны-ігуменні знаходзілі ў розных месцах Усходняй Еўропы — на Рурыкавым гарадзішчы ў Ноўгарадзе, у Какнэсе (полацкай крэпасці Кукейнос на Дзвіне) і непасрэдна каля Спаскай царквы ў Полацку. Свінцовыя пломбавыя пячаткі падвешвалі да актавых дакументаў ці пасланняў. Самі пергаміны, на жаль, не захаваліся.

Больш пра бачанне Ефрасінняй сваёй місіі ў духоўным і палітычным жыцці Полацкай зямлі мы можам даведацца з сюжэтаў фрэсак Спаскай царквы.

### Патранальная праграма фрэсак

Заходнюю частку царквы займае манументальная кампазіцыя Крыжаўзвыжання, а па бакавых сценах размешчаныя дзве пары святых мучанікаў: на поўначы — Барыс і Глеб, на поўдні — Раман і Вячаслаў Чэшскі. Святыя атрыбутуюцца беспамылкова, бо маюць суправаджальныя надпісы.

Выключнае месца ў фрэскавым роспісе займае фігура Вячаслава Чэшскага. У вобразе праглядаюцца партрэтныя рысы — гэта чалавек з даўгімі валасамі, якія спускаюцца на плечы некалькімі пасмамі, трохі закручанымі вусамі і кароткай клінападобнай барадой. Шанаванне святога Вячаслава ўзыходзіць да самых пачаткаў чэшскага хрысціянства.

Сюжэт з выявай св. Вацлава ў Спаскай царкве паказвае, што культурныя і рэлігійныя сувязі Полацка не ўкладаліся толькі ў «руска-візантыйскі» вектар. Мы бачым, як у XII ст. існавала царкоўна-культурная прастора, якая аб'ядноўвала Полацк і Русь з заходнімі славянамі.

Выбар святых для Спаскай царквы меў сімвалічны характар для полацкай дынастыі. Імёны Барыс, Глеб, Вячаслаў былі родавымі для Усяславічаў. Але не толькі так Ефрасіння збіралася ўвекавечыць тут свой род. У апошнія гады, падчас рэстаўрацыйных прац у Спаскай царкве, былі выяўленыя сем аркасоліяў — пахавальных арачных нішаў у сценах. Відавочна, што царква ўзводзілася як сямейная пахавальня родзічаў Ефрасінні.

Каля адной з тых нішаў змешчаная выява святой Ефрасінні Александрыйскай — патранэсы полацкай ігуменні. Біяграфія Ефрасінні Александрыйскай нязвыклая — яна жыла ў V ст. у манастыры пад выглядам мужчыны. Вобраз святой быў нанесены, як меркаваў расійскі рэстаўратар полацкіх фрэсак Уладзімір Сараб'янаў, каля аркасолі, прызначанай для будучага пахавання Ефрасінні Полацкай. Тут ігуменне, хутчэй за ўсё, і малілася падчас храмавых службаў.

Адной з самых ясных праяваў патрыманіяльнай праграмы фрэсак стаў партрэт самой Ефрасінні, якая падносіць мадэль Спаскай царквы Усявышняму, які, у сваю чаргу, блаславіў яе з Нябёсаў. Ефрасіння без німбу, што сведчыць пра стварэнне фрэскі яшчэ да афармлення яе шанавання як святой.

Увесь ансамбль Спаскага манастыра ўзводзіўся Ефрасінняй як полацкі сакральны і дынастычны мемарыял. Тут яна і збіралася застацца надалей — побач са сваімі крэўнымі і на сваёй зямлі. Але так выпала, што «вярнулася» ў Полацк яна толькі ў XX стагоддзі.

Пра пілігрымку святой Ефрасінні і пра тое, ці існаваў «полацкі матрыярхат», чытайце ў наступным выпуску «Гісторыі Беларусі».

---

**Святы Вацлаў (907—935/936)**

патрон Чэхіі. Бацькам Вацлава быў князь Враціслаў І (888—921) з першай чэшскай дынастыі Пржэмыславічаў, легендарнымі заснавальнікамі якой у другой палове VIII ст. сталі селянін-араты Пржэмысл і княгіня Лібуша. У пачатку IX ст. з Баварыі на тэрыторыю Чэхіі стала пранікаць хрысціянства, а ў 845 г. у Рэгенсбургу 14 чэшскіх князёў прынялі хрост. Але, спрабуючы пазбегнуць нямецкага дамінавання, чэхі ў справах катэхізацыі звярталіся да Візантыі. Ад 863 г. на Маравах (усход Чэхіі) прапаведвалі славянскія асветнікі Кірыл і Мяфодзій. Маці князя Враціслава І Людміла была іх вучаніцай.

Калі ж князь Враціслаў І загінуў у бітве з мадзьярамі, рэгенткай пры непаўналетнім Вацлаве засталася яго маці, княгіня Драгаміра. Яна паходзіла з палабскіх славянаў, родавым цэнтрам якіх быў Бранібор — будучы Брандэнбург. Палабы ў першай палове IX ст. заставаліся язычнікамі. І сама Драгаміра ўвасабляла ў Чэхіі паганскую рэакцыю на хрысціянізацыю краю.

Супрацьстаянне скончылася замахам на Людмілу — яна была задушаная прыхільнікамі Драгаміры. У пэўным сэнсе яе лёс мусіў падзяліць і ўнук Вацлаў.

Дасягнуўшы паўналецця, ён працягнуў актыўную палітыку хрысціянізацыі Чэхіі. Гэта вяло да ўзмацнення залежнасці Чэхіі ад нямецкага біскупата. І частка чэшскай эліты паставіла на Баляслава, малодшага брата Вацлава, выхаванага пад уплывам маці-язычніцы.



**Выява святога Вячаслава Чэшскага — сведчанне кантактаў полацкага праваслаўя з Захадам.**

У 935 г. Вацлаў быў забіты ў царкве на загад Баляслава. Кананізавалі Вацлава як мучаніка, і ў гэтым бачыцца характэрная рыса сярэднявечнага хрысціянства. У час, калі для індывідуальнага выжывання патрабаваліся пастаянныя намаганні ці звышэнергія, схільнасць да стрыманасці і пакорлівасці лёсу лічылася цнотай, здольнай утрымаць соцыум у прававых і культурных рамках. Так на Русі кананізавалі мучанікаў Барыса і Глеба. Паводле «Жыція» святога Вацлава, чэшскі князь ведаў пра намер Баляслава яго забіць, але добраахвотна пайшоў на смерць. Паказальна, што ініцыятарам кананізацыі стаў ягоны брат-забойца. Св. Вацлаў і ёсць Св. Вячаслаў Чэшскі праваслаўнай царквы.

